# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК




ЧЭРВЕНЬ 1935 г. 11-12

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Звязда"

# ЗМЕСТ



Менск. друкарня „Звязды“. Здан у набор 15-VI—35 г. Падпісана да друку 27-VI—35 г.
Уп. Галоўліт. № К—2395. Тыраж 1.200 экз. 2 з палов. друк. арк. У арк. 75.000 зн.

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

ЧЭРВЕНЬ 1935 г. № 11-12 (36)

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

Выходзіць 2 разы ў месяц

*Адказны рэдактар А. ДЖЭЛЮК*

Адрас рэдакцыі і выдавецтва: МЕНСК, Совецкая, 63, тэл. 22412



## УСЕБЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ СВЯТА

11 ліпеня працоўныя Совецкай Беларусі святкуюць падвойнае свята: 15-годдзе вызвалення Беларусі ад белапалякаў і дзень уручэння БССР ордэна Леніна.

Гэты знамянальны дзень з'явіцца «яркім падагульненнем гераічнай барацьбы рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных БССР за сваё соцыяльнае і нацыянальнае вызваленне і за ператварэнне БССР у квітнеючую соцыялістычную рэспубліку, у непрыступную крэпасць соцыялізма».

Мінула 15 год пасля таго, як белапольскія акупанты пакінулі Менск. Які вялікі і гераічны шлях пройдзен працоўнымі БССР за гэтыя 15 год!

Наша рэспубліка зусім змяніла свой твар. Выраслі да непазнавальнасці гарады з дзесяткамі і сотнямі новых фабрык і заводаў. Пабудаваны такія гіганты соцыялістычнай індустрыі, як Гомсельмаш, Магілёўская фабрыка штучнага шоўку, віцебскі швэйны гігант «Сцяг індустрыялізацыі», бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, крычаўскі цэментны завод і інш.

Зусім змяніла свой твар і наша вёска. 75 проц. сялянскіх гаспадарак, якія да рэволюцыі ў пераважнай сваёй частцы гнулі спіну на памешчыка і кулака-эксплаататара, вялі поўгалоднае жыццё на сваім мізэрным кавалачку зямлі, зараз аб'яднаны ў калгасы і пад кіраўніцтвам большэвікоў з поспехам будуюць заможнае і культурнае калгаснае жыццё.

Лапці і лучына—гэты сімвал старой дарэволюцыйнай беларускай вёскі—адышлі ў мінулае. Наша вёска прад'яўляе зараз вялікі попыт на абутак вышэйшай якасці, на шоўк і інш. дарагія тканіны, на добрую мэблю і т. д. У калгасную вытворчасць, у калгасны быт з поспехам укараняецца электрычнасць.

Ці гэта не найярчэйшы паказальнік росту заможнасці і культурнасці калгаснай вёскі?

Пагалоўная граматнасць, увядзенне ўсеагульнага навучання, дзесяткі універсітэтаў і інстытутаў, сотні тэхнікумаў і іншых сярэдніх школ, тысячы няпоўных сярэдніх і ніжэйшых школ—усё гэта ярка характарызуе наш буйны рост у галіне культуры.

Выдатныя поспехі ў галіне сельскай гаспадаркі і прамысловасці высунулі БССР у рады перадавых ордэнаносных рэспублік і абласцей Совецкага Саюза. Саюзны ўрад узнагародзіў Совецкую Беларусь і яе кіраўнікоў тт. **Гікало** і **Галадзеда** вышэйшай узнагародай—ордэнам Леніна. Увесь гэты пераможны шлях народаў БССР пройдзен пад непасрэдным кіраўніцтвам вялікай партыі Леніна—Сталіна, пры непасрэднай дапамозе пролетарыяў усяго Совецкага Саюза.

Вялікі правадыр і настаўнік народаў

тав. **Сталін** сам асабіста штодзенна дапамагае і кіруе соцыялістычным будаўніцтвам БССР. Рэалізуючы мудрыя ўказанні тав. Сталіна, КП(б)Б разграміла контррэвалюцыйную беларускую нацдэмаўшчыну—гэту агентуру імперыялізма заходня-эўрапейскіх дзяржаў, якая імкнулася ператварыць БССР у калонію, вярнуць на нашу зямлю ўладу капіталістаў і памешчыкаў.

Вось чаму наступаючае свята 11 ліпеня з'яўляецца такім блізкім, такім дарагім, такім вялікім для нашай рэспублікі, для кожнай працоўнай сям'і.

Уся наша краіна зараз рыхтуе дастойную сустрэчу гэтаму найвялікшаму святу. На прадпрыемствах і ў калгасах узнялася новая хваля соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Ударнікі і ўдарніцы заводаў і фабрык, соўгасаў і калгасаў узялі тысячы вытворчых самаабавязацельстваў з тым, каб прыйсці да свята з новымі перамогамі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Па ініцыятыве магілёўскай шаўковай фабрыкі разгарнулася вытворчая пераклічка прадпрыемстваў.

Асабліва каштоўную ініцыятыву ў падрыхтоўцы да ўсенароднага свята праявілі знатныя людзі менскага машынабудаўнічага завода імя **Кірава.** Яны звярнуліся ў газету «Звязда» з пісьмом, у якім прапанавалі арганізаваць і паслаць у дзень усенароднага свята пісьмо ўсіх знатных людзей нашай рэспублікі любімаму правадыру і настаўніку народаў тав. Сталіну.

«У гэты дзень,—пішуць кіраўцы,—мы з гордым усведамленнем сваіх перамог будзем услаўляць нашу большэвіцкую партыю, якая стварыла Совецкую Беларусь, якая на аснове ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі вывела нашу краіну на шырокі шлях росквіту, якая арганізавала нашы перамогі. У гэты дзень сваё першае слова ўвесь беларускі народ накіруе вялікаму Сталіну».

Пісьмо кіраўцаў з хуткасцю маланкі абляцела ўсе куткі нашай рэспублікі. У адзін голас працоўныя БССР на мітынгах і сходах заявілі, што кіраўцы сваёй выдатнай прапановай адлюстравалі думкі і імкненні ўсіх працоўных Совецкай Беларусі.

Шырока падхапіў ініцыятыву кіраўцаў і наш раённы друк.

Зусім натуральна, што прапрацоўка пісьма кіраўцаў на прадпрыемствах і ў калгасах адзначаецца новым уздымам творчай актыўнасці працоўных мас. Шырока разгарнулася соцспаборніцтва за права падпісання пісьма т. Сталіну. «Падпісаць і паслаць пісьмо тав. Сталіну—вялікі гонар»,—заяўляюць голасам старшынь калгасаў Лепельскага раёна ўсе працоўныя БССР.

Нашаму раённаму і нізавому друку прадастаўляецца, як ніколі, шырокі прастор для ініцыятывы і масавай работы. Іменна на наш друк у першую чаргу кладзецца ганаровы абавязак дапамагчы ўсім знатным людзям рэспублікі прыняць непасрэдны актыўны ўдзел у справе складання, абгаварэння і пасылкі пісьма тав. Сталіну.

Прадстаіць вялікая арганізацыйна-масавая работа. Па-першае, мы павінны забяспечыць, каб літаральна кожны працоўны ведаў аб выдатнай прапанове кіраўцаў. З дня ў дзень газеты павінны шырока асвятляць на сваіх старонках водгукі працоўных на пісьмо кіраўцаў, адлюстроўваць той вялікі рух і творчы ўздым, які ёсць на прадпрыемствах і калгасах вакол пасылкі пісьма тав. Сталіну. У прыватнасці, задача друку і рабселькораў—узяць з першага-ж дня пад свой кантроль выкананне самаабавязацельстваў, узятых на прадпрыемствах і калгасах пры абмеркаванні пісьма кіраўцаў. Трэба дабіцца, каб да свята не асталося ні аднаго нявыкананага самаабавязацельства.

Пісьмо тав. Сталіну падпішуць знатныя людзі. Каму прадаставіць гэта ганаровае права—будуць вырашаць на сваіх сходах самі рабочыя і калгаснікі, самі працоўныя. На кожным прадпрыемстве, у кожным калгасе, соўгасе, сярод настаўнікаў, аграномаў, студэнтаў, навуковых працаўнікоў, медыцынскіх работ-

нікаў, рабочых і інжынерна-тэхнічнага персанала транспарта, сярод начальствуючага складу і радавых байцоў Чырвонай арміі ёсць многа лепшых людзей, знатных сярод шырокіх мас сваёй выключнай адданасцю даручанай ім справе; узорнай работай, часамі паказваючых проста «цуды» на вытворчасці і сельскай гаспадарцы. Задача нашага друку і рабселькораў—дапамагчы мясцовым арганізацыям выявіць усіх гэтых знатных людзей, прадаставіць ім высокі гонар падпісаць пісьмо тав. Сталіну. Трэба памятаць, што такіх знатных людзей налічваецца ў кожным раёне дзесяткі і сотні, а па ўсёй рэспубліцы дзесяткі тысяч.

Зусім правільна робяць многія раённыя газеты («Чырвоная Полаччына», «Ленінскі прызыў»—Орша, «Віцебскі пролетарый», «Комунар»—Рагачоў і рад іншых), калі яны на сваіх старонках разгортваюць шырокі паказ знатных людзей. Тут выступаюць самі знатныя людзі і расказваюць аб сабе, аб сваім вопыце. Аб іх пішуць кіраўнікі прадпрыемстваў, калгасаў, рабселькоры.

Усе масавыя мерапрыемствы, звязаныя з пасылкай пісьма тав. Сталіну, павінны быць прасякнуты папулярызацыяй апошняга лозунга тав. Сталіна аб тым, што **«кадры вырашаюць усё».** Трэба прыкаваць увагу ўсіх арганізацый к задачам рэалізацыі гістарычных указанняў тав. Сталіна пра клопаты аб жывых людзях, аб вырошчванні кадраў.

Не выпадкова-ж кіраўцы, адлюстроўваючы думку ўсіх працоўных БССР, пачалі сваё пісьмо ў «Звязду» іменна з напамінання аб незабыўных словах вялікага правадыра народаў, якія прагучэлі на ўвесь свет, што **«з усіх каштоўных капіталаў, якія ёсць у свеце, самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі, кадры».**

Неабходна праз старонкі нашых газет вуснамі знатных людзей, актыўных удзельнікаў барацьбы з белапольскай акупацыяй расказаць нашай моладзі аб гераічнай барацьбе працоўных Беларусі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі за сваё соцыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Неабходна вуснамі знатных людзей расказаць аб велізарнейшых перамогах, якія мы маем ва ўсіх кутках нашай ордэнаноснай БССР. Неабходна шырока асвятліць сучаснае матэрыяльнае і культурнае становішча працоўных БССР, параўнаць гэта з жыццём працоўных дарэволюцыйнай Беларусі—поўкалоніі царскага імперыялізма, з часамі нямецка-польскай акупацыі, з сучасным жыццём працоўных у Заходняй Беларусі.

На старонках «Звязды» і многіх раённых газет пачалося абгаварэнне знатнымі людзьмі зместу пісьма тав. Сталіну. У розных раёнах БССР знатныя людзі ўносяць свае прапановы аб чым і што напісаць вялікаму правадыру, выказваюць свае пажаданні, што ім хацелася-б расказаць тав. Сталіну. Так пачалося калектыўна пісацца знатнымі людзьмі нашай рэспублікі пісьмо тав. Сталіну.

Задача ўсіх раённых газет—шырока разгарнуць масавую работу, даць магчымасць усім знатным людзям выказаць праз газетную трыбуну свае думкі, свае пачуцці і прапановы, аб чым напісаць тав. Сталіну. Усе гэтыя выступленні будуць пакладзены ў аснову калектыўнага пісьма знатных людзей.

Не толькі знатныя людзі, але і ўсе працоўныя БССР праяўляюць выключна вялікі энтузіязм да пасылкі пісьма тав. Сталіну і жадаюць прыняць непасрэдны ўдзел у яго абгаварэнні. Наша задача дапамагчы ім у гэтым. Гонар кожнай раённай газеты і шматтыражкі, пад кіраўніцтвам сваёй партарганізацыі ўзорна арганізаваць гэту справу, забяспечыць пагалоўны ўдзел працоўных БССР у абгаварэнні пісьма тав. Сталіну.

«Голас знатных людзей прагучыць як голас усіх працоўных Совецкай Беларусі—і беларусаў, і палякаў, і яўрэяў, і рускіх, і іншых нацыянальнасцей, зліваючыхся ў адным парыве бязмернай любві і адданасці кіраўніку і натхніцелю ўсёй нашай барацьбы і перамог, вялікаму і мудраму, роднаму і любімаму нашаму Сталіну». **(«Звязда»).**

# Рыхтаваць перамогі
## на фронце ўборкі ўраджаю

* * * **М. САКАЛОЎСКІ.** * * *

У гэтым годзе веснавая сяўба прайшла як ніколі арганізавана. Без спешкі і гарачкі большасць калгасаў высокаякасна засеялі яравы клін, правялі сяўбу на добра. Гэта рэзультат ажыццяўлення сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі, рэзультат арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, росту свядомасці калгаснікаў, якія пад кіраўніцтвам партыі цвёрда ідуць к заможнаму жыццю.

Ордэнаносная БССР пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з лепшымі бальшэвікамі-ордэнаносцамі тт. **Гікало і Галадзедам** значна лепш чым у мінулым годзе правяла сяўбу. ЦК КП(б)Б і СНК рапартавалі тав. **Сталіну** і т. **Молатаву**, што ўжо 15 мая план сяўбы быў выкананы на 102 проц.

Гэта абавязвае працоўных БССР працаваць яшчэ лепш, яшчэ напружаней, каб замацаваць гэтыя велізарныя дасягненні.

Зразумела, што сяўбой не канчаецца барацьба за высокі ўраджай. Ахова пасеваў, праполка, уборка—гэта важнейшыя работы, якія павінны замацаваць бліскучыя рэзультаты пасеўнай, забяспечыць высокі ўраджай калгасных палёў.

Самым адказным, заключным участкам, вырашаючым лёс ураджаю, з'яўляецца ўборачная кампанія. У гэтым годзе, каб паспяхова правесці ўборку, патрабуецца асабліва старанная падрыхтоўка. Паколькі сяўба праведзена ў кароткія тэрміны, пастолькі натуральна, яравыя будуць спець роўнамерна і паспеюць амаль адначасова з азімымі. Значыць, да ўборкі ўраджаю трэба падрыхтавацца так, каб у найкарацейшы тэрмін правесці яе, каб ні аднаго гектара збожжа і другіх культур не перастаяла на корні.

Як-жа раённыя газеты дапамагаюць партыйным арганізацыям на выдатна падрыхтаваць уборку ўраджаю? Трэба прама сказаць, што большасць газет БССР гэту задачу выконваюць дрэнна. Прайшло ўжо нямала часу, як скончана сяўба, аднак **«Калектывіст Расоншчыны»**, **«Калгасны сцяг»** (Камарын), **«Ленінскі шлях»** (Сіроціна), **«Калгаснік на варце»** (Лельчыцы), **«Ударнік»** (Сураж), **«Ленінскі шлях»** (Слуцк), **«Прымежны комунар»** (Жыткавічы) і рад іншых раённых газет усё яшчэ маўчаць аб падрыхтоўцы да ўборкі.

Прычына такой нічым не апраўданай самасупакоенасці крыецца ў тым, што ў многіх рэдактароў раённых газет закружылася галава ад поспехаў веснавой сяўбы, што яны забыліся на такую ісціну—нельга зазнавацца, трэба заўсёды быць у баявой гатоўнасці.

Кіраўніцтва некаторых раёнаў і раённыя газеты ўсё яшчэ жывуць поспехамі веснавой сяўбы, усё яшчэ святкуюць перамогу. Рад газет усё яшчэ пішуць аб веснавой сяўбе, хоць яна даўно скончана, перапяваючы і пераважоўваючы многа раз перапетае і пераважаванае. Праглядзіце камплект **«Калгасніка на варце»** (Лельчыцы). У канцы мая, калі нават і ў адстаючым па сяўбе Лельчыцкім раёне абсалютная большасць калгасаў скончыла сяўбу, калі трэба было моцна загаварыць аб праполцы і падрыхтоўцы да ўборкі, «Калгаснік на варце» ўсё яшчэ паведамляе сваіх чытачоў аб такіх навінах, што:

> **«Закончылі сяўбу калгасы «Прагрэс», «Другая пяцігодка», Сіманіцкага сельсовета». «Закончылі сяўбу калгасы «XV з'езд ВКП(б)», «X з'езд советаў», Стодольніцкага сельсовета «Калгасы і аднаасобны сектар в Непольскага сельсовета на 24 мая поўнасцю закончылі план веснавой сяўбы».**
>
> **«Калгас «Пабеда», Глушэвіцкага сельсовета, закончыў сяўбу» і т. д.**

У разгар сяўбы, зразумела, паведамленні аб сканчэнні сяўбы тым ці іншым калгасам маюць мабілізуючае значэнне. Але павошта загружаць такімі паведам-

леннямі ў канцы сяўбы? Гэта тлумачыцца толькі тым, што газета працуе кампанейскі, не можа адначасова апаратыўна асвятляць другія кампаніі, рабіць упор на галоўнае ў даны адрэзак часу.

Мы так многа спыніліся на «Калгасніку на варце» таму, што многім газетам уласцівы яго недахопы. Многія газеты, як і «Калгаснік на варце», усё яшчэ жывуць пасеўнай, усё яшчэ падводзяць яе вынікі. А тым часам азімыя даўно ўжо выкаласіліся. Хутка растуць яравыя, з кожным днём мы набліжаемся да ўборачнай. Зусім к месцу пры такім становішчы прывесці вытрымку з пастановы чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б). Там сказана так:

«Пленум ЦК ВКП(б) перасцерагае партыйныя і савецкія арганізацыі ад недаацэнкі труднасцей надыходзячай уборачнай і загатоўчай кампаніі і захаплення дасягнутымі ў веснавой пасеўнай кампаніі поспехамі і папярэджвае ўсе партыйныя і савецкія арганізацыі, Наркамзем СССР, Наркомсоўгасаў і камітэт па загатоўках, што іх работа будзе ацэньвацца па рэзультатах уборачных работ і выкананню планаў загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў».

Раённыя газеты павінны ўлічыць гэту перасцярогу і неадкладна па-сур'ёзнаму ўзяцца за асвятленне падрыхтоўкі да ўборачнай кампаніі.

Уборку ўраджаю вырашаюць людзі і машыны. З гэтага і трэба павесці барацьбу за падрыхтоўку, арганізаваўшы рабселькораўскія рэйды, пасты, узяўшы пад пастаянны нагляд ход рамонту машын і ўборачнага інвентару.

Прычым трэба не фіксаваць наогул, што столькі і столькі машын адрамантавана, а столькі не. Трэба паказваць, як адрамантавана, напрыклад, жняярка, ці ёсць пры ёй зернаўлавіцель. Трэба паказваць, хто і як рамантуе, заахвочваючы ўдарнікаў, бічуючы бракаробаў.

Вялікую ўвагу газеты павінны звярнуць на **падрыхтоўку кадраў да ўборачнай.** Дзе-ні-дзе ёсць выпадкі, калі толькі што закончыўшы веснавую сяўбу, паспелі ўжо страціць кадры. Газеты павінны выступіць за падрыхтоўку работнікаў на жняярках, бо часта жняяркі не выконваюць норм, ламаюцца таму, што да іх ставяцца людзі, незнаёмыя з гэтымі машынамі. Праблема кадраў — важнейшая праблема ўборачнай, і газеты павінны дапамагчы партыйным арганізацыям яе вырашыць.

Або чаму-б ужо цяпер не ўзяць пад абстрэл друку работу спажывецкай кааперацыі? Ва многіх мясцах яна яшчэ і не думае рыхтавацца да ўборачнай. А яе-ж прамы абавязак ужо зараз наладзіць работу так, каб калгаснік быў забяспечан непасрэдна на полі такімі таварамі, як махорка, запалкі, прахаладзіцельныя напіткі і т. д. Гэта зусім не дробязь, як некаторыя думаюць, гэтым варта заняцца.

Адначасова з падрыхтоўкай да ўборкі трэба заняцца **рамонтам** малатарань. трэба дабівацца таго, каб не было вялікага разрыву паміж уборкай і малацьбой, як гэта ва многіх калгасах назіралася ў мінулым годзе. Гэта—важнейшая задача, бо ў першую чаргу прама з-пад малатарні трэба зярном лепшай якасці выканаць план хлебапаставак.

Трэба праверыць ці маюць калгасы. сельсоветы планы падрыхтоўкі да ўборкі і планы самой уборкі. Дабівацца, каб да пачатку ўборкі ўраджаю ўбраць сенажаць.

Вышэй класавую пільнасць! Класавы вораг разбіт, але недабіт. Ён будзе прабаваць шкодзіць і стрыжкай каласоў, і патравамі, і раскрадваннем багатага ўраджаю. Таму трэба ўжо зараз наладзіць ахову ўраджаю, падбіраючы для гэтага лепшых калгаснікаў, даючы жорсткі адпор усякім спробам класавага ворага сарваць уборку бальшэвіцкага ўраджаю.

Убраць значна цяжэй, чым пасеяць. Аб гэтым трэба цвёрда памятаць, трэба мабілізаваць усе сілы на выкананне гэтай важнейшай задачы. Трэба цвёрда памятаць пастанову пленума ЦК ВКП(б), дзе ўказана, што:

«Поспех уборкі вырашыць сістэматычнае і штодзённае кіраўніцтва партыйных арганізацый уборкай, уцягненне ўсёй масы калгаснікаў і рабочых соўгасаў у актыўную работу па ўборцы і скарыстанне поўнасцю ўсіх машын і асабліва камбайнаў».

Шырока арганізаваўшы глыбокае асвятленне падрыхтоўкі кадраў для ўборачнай, рамонт уборачных машын і інвентару, работу арганізацый і асобных людзей, друк павінен па-баявому дапамагчы партыйным арганізацыям правесці ўборачную больш арганізавана, чым пасеўную, каб у першую чаргу выканаць першую запаведзь—выканаць у тэрмін план хлебапаставак, натураплату МТС і дзяржаўныя загатоўкі іншых сельскагаспадарчых прадуктаў.

Ордэнаносная БССР павінна лепш, арганізаваней правесці ўборку, чым нават сяўбу. Ганаровая задача раённых газет, як і ўсяго друку БССР, быць у пярэдніх радах барацьбітоў за гэту важнейшую задачу.

Працаваць так, каб усенароднае свята 11 Ліпеня сустрэць перамогамі ва ўсіх галінах сельскагаспадарчых работ.

# НАСУСТРАЧ НАРОДНАМУ СВЯТУ

Б. ЗЕЛЬМАНАЎ, А. МАТУСЕВІЧ.

З вялікім захапленнем сустрэлі працоўныя Полаччыны прапанову кіраўцоў аб пасылцы тав. **Сталіну** пісьма знатных людзей Савецкай Беларусі. На другі дзень пасля змяшчэння ў раённай газеце прапановы кіраўцоў у рэдакцыю **«Чырвонай Полаччыны»** пачалі паступаць водгукі рабочых прадпрыемстваў горада. Першымі адгукнуліся рабочыя хлебазавода.

Увечары 27 мая ў памяшканні заўкома сабраліся ўдарнікі хлебазавода. Пачалі абмяркоўваць прапанову рабочых менскага машынабудаўнічага завода імя Кірава. 1 ў памяці паўставалі мінулыя дні, дні катаржнай работы на капіталістаў, цяжкія чатырнаццацігадзінныя рабочыя дні ў сырых сутарэннях прыватных майстэрань.

Брыгадзір тав. **Буцько** расказаў пра свой чатырнаццацігадзінны рабочы дзень у дымнай пякарні прыватніка. Дырэктар завода тав. **Зякшанскі** расказаў пра гады свайго вучнёўства, калі ён у муках здабываў сабе «кваліфікацыю» і зарабляў у год толькі паўтара рубля.

Рабочыя лесазавода абавязаліся да канца года павялічыць выпуск прадукцыі на 6.500 рублёў, узняць прадукцыйнасць працы на 10 проц., знізіць сабекошт на 15 проц.

Следам за рабочымі хлебазавода і лесазавода на старонках раённай газеты выступілі член ЦВК БССР — старшыня калгаса «Чырвоная Сосніца» **Сабаленка** Алена, выдатнікі вучобы першай полацкай сярэдняй школы, рабочыя чыгуначнай станцыі Полацк, члены прамысловых арцеляў горада, старшыня чырвонасцяжнага Сосніцкага сельсовета тав. **Юрчанка.**

З чаго пачала работу вакол пісьма кіраўцоў рэдакцыя «Чырвонай Полаччыны»?

Перш за ўсё рэдакцыя накіравала сваіх работнікаў на прадпрыемствы горада для дапамогі ў правядзенні сходаў і арганізацыі водгукаў рабочых на пісьмо кіраўцоў. Рэдакцыя паставіла задачай адлюстраваць у гэтых водгуках ўмовы жыцця раней і цяпер усіх груп працоўнага насельніцтва раёна. Рабочыя, калгаснікі, чыгуначнікі, чырвонаармейцы, настаўнікі, саматужнікі, брыгадзіры і старшыні калгасаў у сваіх выступленнях праз раённую газету павінны ўнесці рад прапаноў і дадаткаў да таго пісьма, якое пашлюць тав. Сталіну знатныя людзі БССР.

Адначасова ў друкуемых матэрыялах шляхам параўнання і супастаўлення жывых прыкладаў раённая газета па-

чынае паказваць буйны росквіт культуры, рост добрабыту працоўных. «Чырвоная Полаччына» друкуе пісьмо былой няграматнай бядначкі, а зараз члена ЦВК БССР дэлегата ўсесаюзнага з'езда калгаснікаў - ударнікаў, калгасніцы «Чырвоная Сосніца» Алены Сабаленка.

> «Многа, вельмі многа можна напісаць т. Сталіну. Вось я вазьму сябе. Зараз я — член ЦВК БССР. Ці магла я раней марыць, што я, дачка бедняка, у мінулым няграматная вясковая дзяўчына, стану членам урада? Вядома, не. Гэта магчыма толькі ў нас, у краіне, дзе ўлада знаходзіцца ў руках працоўных».

Так піша Алена Сабаленка. Яна расказвае, якой была і якой стала вёска Сосніца.

> «Змяніўся твар вёскі. Няма ў нашай Сосніцы старой царквы, кабака. Ёсць клуб, парк культуры і адпачынку. У хаце кожнага калгасніка ёсць журналы, газеты. Кожны калгаснік забяспечан хлебам.
>
> Растуць на вачах калгаснікі. Я ганаруся брыгадзірам-комсамольцам ГАРБАЦЕНКА, брыгада якога першай закончыла сяўбу на Полаччыне. Ганаруся сваім загадчыкам МТФ ГАРБАЦЕНКА С., які добра арганізаваў работу на ферме, вырас настолькі, што можа кіраваць любым калгасам. Аўладаў зоатэхнікай 60-гадовы дзед ЦІМАФЕЕЎ. Ён зараз загадчык трусагадоўчай фермы».

У Полацку жыве многа яўрэйскага насельніцтва. Жывуць узросшыя за гады рэволюцыі кадры яўрэйскіх рабочых чыгункі, хлебазавода, лесазавода, і іншых прадпрыемстваў, жывуць саматужнікі. І раённая газета паставіла задачай паказаць на сваіх старонках мінулае мястэчка з яго «чертой оседлости» і параўнаць яго з буйным росквітам культуры і добрабыту яўрэйскіх працоўных мас сёння. Па ініцыятыве рэдакцыі склікаецца агульнагарадскі злёт ударнікаў прамыслова-каапірацыйных арцелей, лепшыя ўдарнікі выступяць праз старонкі раённай газеты з **расказам аб сваім** мінулым і сучасным жыцці. Чарговая яўрэйская старонка раённай газеты, якая выйшла першага чэрвеня, прысвечана абмеркаванню пісьма рабочых завода імя Кірава і падрыхтоўцы да ўсебеларускага народнага свята 11 Ліпеня.

***

У плане сваёй работы газета прадугледзела ўсебаковы паказ знатных людзей раёна, якія змагаюцца за права падпісаць пісьмо тав. **Сталіну.** Газета пакажа лепшых ударнікаў, якія атрымаюць першынства ў спаборніцтве на прапольцы і заваююць права паездкі ў Менск на свята працоўных БССР.

Рэдакцыя склала план юбілейнага нумара газеты за 11 Ліпеня. У гэтым нумары **газета дасць вялікі** паказ гераічнага змагання адной з вёсак Шацілаўскага сельсовета, Полацкага раёна, з белапольскімі акупантамі. Гэта вёска была датла спалена і зруйнавана карнымі белапольскімі атрадамі. Сёння тут адзін з передавых у раёне калгас «Социялістычная вёска». Гэты канкрэтны матэрыял, для збірання якога рэдакцыя накіроўвае двух сваіх работнікаў і прыцягвае былых чырвоных партызан і сёнешніх ордэнаносцаў, павінен дапоўніць увесь рознастайны змест нумара газеты, прысвечанага вялікаму святу працоўных Совецкай Беларусі.

# Агляд друку

## „Толькі на рабоце вучацца людзі“

З усіх канцоў Рагіньскага сельсовета (Будакашалеўскі раён) з'ехаліся знатныя людзі калгасаў. Яны сабраліся на нараду, склікаsucc рэдакцыяй будакашалеўскай раённай газеты **«Ленінскі шлях»** і прэзідыумам сельсовета, каб абмеркаваць толькі адно, але надзвычай важнае пытанне:

> **«Як лепш рэалізаваць словы правадыра тав. СТАЛІНА аб выхаванні кадраў, што трэба зрабіць, каб пашырыць ударны рух у калгасах, каб калгаснік-ударнік стаў цэнтральнай фігурай у калгасе, каб з калгаснікаў-ударнікаў раслі і выхоўваліся пад кіраўніцтвам нашай партыі дзесяткі і сотні кіруючых работнікаў калгасаў».**

(«Ленінскі шлях» № ад 27 мая)

Адзін за адным выступаюць знатныя людзі калгаснай вёскі: лепшыя брыгадзіры, калгаснікі-ўдарнікі. Кожны ўносіць свае прапановы.

Вось **Кузняцоў** Сцяпан—брыгадзір з калгаса «Ўсход». Ён расказвае аб сваёй рабоце, аб ударніках, якія «не рабілі сакрэтаў з сваіх поспехаў», а перадавалі гэтыя «сакрэты» ўсім калгаснікам. Пасля прамовы т. Сталіна Кузняцоў паставіў перад сабой задачу: з лепшых ударнікаў выхаваць кадры кіруючых работнікаў калгаса. А такія людзі ўжо ёсць у яго брыгадзе:

> **«Я магу з гонарам заявіць, што лепшыя ўдарнікі брыгады — Габрусёў Алесь, Габрусёў Антон, Дзмітрачэнка Мітрафан хоць сёння могуць быць брыгадзірамі ў невялікіх брыгадах».**

Вось ударнік **Авер'янаў** Іван з калгаса «Комунар». Ён скардзіцца, што прэзідыум сельсовета не ўцягвае ўдарнікаў у грамадскую работу, не дае ім асобных даручэнняў. А вядома-ж, што

> **«толькі на рабоце вучацца людзі. А хто з нас не хоча вучыцца? Няма такіх сярод сапраўдных ударнікаў».**

**Жукаў** Аляксей з калгаса «Ўлада Саветаў» прапануе склікаць сходы ўдарнікаў, арганізоўваць іх справаздачы на сходах брыгад. Як і Авер'янаў, ён гаворыць аб вучобе, але ўжо аб вучобе элементарнай. Малаграматнасць перашкаджае росту асобных ударнікаў. І Жукаў прапануе прымацаваць да малаграматных ударнікаў настаўнікаў, вучняў старэйшых класаў.

> **«Я скончыў школу малаграматных. Калі-б да мяне прымацавалі каго-небудзь з настаўнікаў ці старэйшых вучняў, я-б з ахвотай вучыўся».**

Нарада знатных людзей Рагінскага сельсовета—вельмі каштоўнае мерапрыемства рэдакцыі «Ленінскага шляха» ў барацьбе за рэалізацыю гістарычных указанняў т. **Сталіна.**

Шмат каштоўных прапаноў сабрала рэдакцыя на гэтай нарадзе. І зараз задача газеты заключаецца ў тым, каб арганізаваць у калгасах ажыццяўленне прапаноў знатных людзей. І не толькі ў калгасах Рагіньскага сельсовета, але і ўсяго раёна.

## 314 селькораў... А аўтараў?...

314 рабселькораў і 105 насценных газет налічваецца ў Асіпавіцкім раёне. І ўсё-ж такі на старонках асіпавіцкай раённай газеты можна ўбачыць толькі 5—10 аўтараў, якія даюць больш-менш сур'ёзныя карэспандэнцыі.

Хто яны, гэтыя шчаслівыя, якім газета прадастаўляе свае старонкі? Гэта **не рабкоры і не селькоры. Гельфман, Крэйзель, Трацэўскі і Дайцяк** — работнікі газеты. Вось хто запаўняе старонкі «Калгаснай праўды».

Пад вмешчанымі карэспандэнцыямі часта можна ўбачыць і такія подпісы, як **Алесь, А. Г., Трапны, Т. К. Г.** і т. д. Гэта псеўдонімы ўказаных работнікаў і ўжываюцца яны, каб не намазоліць вочы чытачам, каб схаваць за імі прозвішчы работнікаў рэдакцыі.

Прагледзьце нумар «Калгаснай праўды» за 2 чэрвеня. Тут змешчана 5 карэспандэнцый загадчыка сельскагаспадарчага сектара т. Гельфмана. У нумары за 7 чэрвеня яго карэспандэнцый **6**. У 49 нумары **яго матэрыял** займае **калонак** і т. д.

У чым-жа справа? Можа рабселькоры не пішуць у «Калгасную праўду»? Не. У сярэднім рэдакцыя атрымлівае 10—15 пісем у дзень. Значыць, справа не ў гэтым. Прычына таго, што рабселькораўская карэспандэнцыя рэдкі госць на старонках «Калгаснай праўды» ў тым, што рэдакцыя не праводзіць работы з рабселькорамі, не вырошчвае з іх сур'ёзных аўтараў.

Вялікае значэнне ў вырошчванні рабселькораў, як аўтараў, мае індывідуальная перапіска з імі, дача канкрэтных заданняў, указанняў, што пісаць і як пісаць. Усё гэта не практыкуецца «Калгаснай праўдай». Аб прычынах незмяшчэння той ці іншай карэспандэнцыі селькорам не паведамляецца. Калі карэспандэнцыя пасылаецца на расследванне, селькор атрымлівае паведамленне аб гэтым і ўсё. На літаратурныя якасці карэспандэнцыі не ўказваецца. Гэта лічаць дробязю. і на склікаемых (да рэчы вельмі рэдка) злётах і нарадах рабселькораў не ставяць пытанне аб рабоце над карэспандэнцыяй, не вучаць, як пісаць нарыс, фельетон.

Не атрымліваючы дапамогі ад рэдакцыі, рабселькоры вучацца пісаць па тых часта шаблонных заметках, якія друкуюцца ў газеце. Селькоры Бурак і Дрэнь нядаўна проста скапіравалі заметку з «Калгаснай праўды», уставіўшы толькі новыя факты.

Аб чым пішуць селькоры больш за ўсё? Яны раўняюцца па зместу газеты. А дзеля таго, што газета больш за ўсё асвятляе ход кампаній, то аб гэтым больш за ўсё і пішуць селькоры. Тав. Шкутко — актыўны селькор «Калгаснай праўды». З 1933 г. ён прыслаў рэдакцыі 71 заметку. І ўсе яны толькі аб сяўбе, уборцы, абмалоце. На пытанне чаму гэта так, чаму ён не ўзнімае новых тэм, Шкутко адказвае:

«Пісем і асабістых заданняў ад работнікаў рэдакцыі аб чым пісаць і як пісаць я не атрымліваю, хоць часта бываю ў рэдакцыі. Пішу аб тым, аб чым больш за ўсё друкуе газета, прыглядаюся, як пішуць і працуюць над заметкамі работнікі рэдакцыі.

— Ці дае вам рэдакцыя заданні?

— Не.

— Як дапамагае вам рэдакцыя расці, як селькору?

— Ніяк. Нават калі я бываю ў рэдакцыі, і тады мне не ўказваюць на недахопы маіх карэспандэнцый.

Некаторыя селькоры, жадаючы навучыцца як лепш пісаць у газету і не атрымліваючы дапамогі ад рэдакцыі, прыходзяць вучыцца гэтаму ў работнікаў рэдакцыі. Але хіба можна ад іх вучыцца, калі яны дыктуюць машыністцы рабселькораўскія карэспандэнцыі, не выправіўшы іх, або свае матэрыялы, не напісаўшы іх. Вазьміце т. Гельфмана. Ён зусім не працуе над сабой і сваімі карэспандэнцыямі. Трэба нарыс, верш, фельетон — усё гэта напіша т. Гельфман. І вельмі хутка, бо часта ён падходзіць да машыністкі і дыктуе ненапісаны матэрыял. Няхай толькі машыністка паспявае выстукваць тое, што Гельфман будзе гаварыць.

Гэты шкодны метад «работы» над заметкай пераймалі некаторыя рабселькоры, напрыклад, т. **Науменка,** які прыходзіць у рэдакцыю і таксама дыктуе адразу машыністцы карэспандэнцыю замест таго, каб напісаць яе.

Ці ёсць у «Калгаснай праўды» здольныя рабселькоры, якія могуць пры пэўнай дапамозе пісаць нарысы, фельетоны, узнімаць новыя пытанні на старонках газеты, узбагачаць яе тэматыку? Зразумела, ёсць. Селькоры **Адзінец, Люцер, Ніціеўскі, Алешка** і іншыя пісалі нарысы, прабавалі пісаць фельетоны, але рэдакцыя брала з іх факты і рабіла сухія, шаблонныя заметкі. Селькоры не пазнавалі сваіх матэрыялаў. Яны перасталі зусім пісаць. А цяпер работнікі рэдакцыі здзіўляюцца, чаму гэтыя селькоры перасталі пісаць, «ці не выехалі яны з раёна?»

Селькор **Мычко Рыгор** напісаў у га-

зету 14 заметак. Адказ ён атрымаў толькі на дзве, дый то які «павучальны» адказ. Трэба мець вялікае цярпенне, каб пасля такіх адказаў зноў пісаць у газету. Прыводзім гэтыя адказы цалкам. Першы з іх паведамляў:

**«Тав. Мычко. Ваша заметка аб старшыні будзе прапушчана. Трэба паўтарыць напісанае вамі ў заметцы, бо яна зацяралася».**

Нядаўна ён атрымаў другі адказ. Прыводзім поўнасцю гэты адказ так, як ён напісан:

**«Тав. Мычко. Рэдакцыя «К. П. атрымала шмат допісаў ад калгаснікаў аб дрэннай рабоце насценгазеты, у тым ліку і ад вас, што старшыня калгаса Івакоў не рэагуе на прапушчаныя допісы ў насценгазеце. Просьба паведаміць, калі такія факты маюцца, і калі што ёсць дадатковае—напішыце, то будзе прапушчана».**

Селькор Мычко напісаў дадаткова. Але што-ж усё-такі зроблена з яго заметкай, якія недахопы ў ёй, ці так і ці тое, што трэба, ён напісаў — пра гэта так і не даведаўся.

Усё гэта ад неразумення ролі рабселькора як аўтара, ад неразумення таго, што карэспандэнцыі рабселькораў павінны займаць цэнтральнае месца на старонках газеты.

Пара рэдакцыі «Калгаснай праўды» ад размоў перайсці да канкрэтнай работы з рабселькорамі, работы не наогул, а звязанай з паласой газеты, з падаваемымі ў яе карэспандэнцыямі, выхоўваць з рабселькораў аўтараў нарысаў, фельетонаў, апавяданняў, зрабіць з іх кваліфікаваных грамадскіх супрацоўнікаў газеты.

**Р. СІМХОВІЧ.**

# ГАЗЕТНЫЯ БРАКАРОБЫ

**«Парторг Забароўскі ў ролі «шахматыста».**

**«Дакуль сын і бацька будуць арудваць».**

**«Драпежніка цягавай сілы да адказнасці».**

**«Коні не гавораць, а гаспадар не дагадваецца».**

**«Сабяром сродкі на пабудову суда птушак».**

**«Спыніць самавольныя дзеянні».**

**«Разбіць антыгарчычныя настроі».**

**«Больш увагі нарыхтоўкам яек».**

**«Больш увагі яслям».**

**«Чырвоная Тураўшчына на аглядзе».**




Гэта не выдумкі і не галаваломкі, а звычайныя загалоўкі тураўскай раённай газеты **«Чырвоная Тураўшчына»**. Нават калі бегла праглядаеш газету, у вочы кідаецца выключная неахайнасць, нядбайнасць, перарастаючыя ў грубыя палітычныя памылкі.

Пад «інтрыгуючымі» і вабячымі сваёй няграматнасцю загалоўкамі хаваецца не менш бязграматныя, часта пераходзячы ў пустую балбатню змест.

У адной з заметак нейкага **Пазоўскага** пад загалоўкам: «Не камандаваць, а настойліва вырошчваць калгасныя кадры, па сталінску да іх адносіцца»—знаходзім такія практыкаванні:

**«У калгасе «Дзень ураджаю» не хапае аднаго перадавога актыва людзей, якія-б добра разбіраліся ў чарговых задачах, пастаўленых партыяй і ўрадам і якія-б былі-б сапраўднымі ўдарнікамі як на вытворчасці, так і ў грамадскім жыцці».**

Наўрад ці хто паверыць аўтару артыкула Пазоўскаму, што ў калгасе няма актыва, няма ўдарнікаў і т. д. Без актыва і ўдарнікаў, без чэсных калгасні-

каў не мог-бы існаваць і калгас. Хто-ж гэтага не ведае?

Аказваецца, што Пазоўскі, які пісаў першы абзац гэтага артыкула, сам абвяргае сябе, ён таксама не верыць гэтаму. Далей ён піша:

«Ці сапраўды іх няма? Не, яны ёсць у нашым калгасе». Дык у чым-жа справа,—пытаем мы. Якому Пазоўскаму верыць, ці таму, што гаворыць у пачатку артыкула, што няма, ці таму, які двума абзацамі ніжэй абвяргае гэта цвярджанне?

Гэты факт сапраўды нагадвае анекдатычны выпадак у судзе, калі сведка, баючыся абвінаваціць падсуднага, і баючыся суддзі, на пытанне аа сутнасці бачанага адказаў: «І бачыў і не відаў».

І гэта бяссэнсная балбатня займае каля 60 радкоў каштоўнага газетнага месца.

Перагортваеш далей камплект газеты. У адным з нумароў знаходзім артыкул пад назвай: «Ні адзін працоўны не павінен святкаваць кулацка-папоўскае свята—пасху». Хоць загаловак і доўгі, але ўсё-ж пахвальна, што газета змяшчае артыкул аб шкоднасці рэлігіі і рэлігійных свят.

Але як толькі мы зірнулі на тэкст, о жах! Там нават зусім спрактыкаваны ў грамаце чалавек і то зубы паламае, не гаворачы ўжо аб масавым чытачу газеты, пераважна калгасніку. Падамо некалькі сказаў з захаваннем стылю:

**«Сказка аб хрысце і яго ўсе прашчання і ўселюбія царкоўнікі сактанты выкарыстоўваць у мэтах прытуплення класавай пільнасці працоўных, абрадамі адпушчэння грэху, контррэвалюцыйныя клерыкалы хочуць апраўдаць злачынства і змыкаюцца з крымінальнікамі—бандытамі, хуліганамі, каб хуліганскімі выхадкамі, бандыцкімі налётамі псаваць і раскрадваць соцыялістычную маемасць».**

Памры, Дзяніс, лепш не напішаш! Не ведаем, у якім настроі аўтар артыкула **Моўчан** пісаў гэту нядзюжынную працу. Не ведаем таксама, ці разумее ён зараз, што ён пісаў. Але чытачы напэўна нічога не зразумеюць.

І гэта славесная няграматная мішура займае звыш 200 радкоў. У наступным нумары, надражаючы Моўчану, развышоўся на 200 радкоў антырэлігійным артыкулам нейкі **Я. Ліўшыц.**

Там мы чытаем ужо новыя «адкравенні»:

**«Класавы вораг разбіты, але яшчэ канчаткова не дабіты, у выніку такой дрэннай антырэлігійнай работы спрабуе пад шыльдай рэлігіі весці сваю антысовецкую дзейнасць».**

Мы пытаем, каму патрэбен гэты няграматны брэд. Чаму рэдакцыя газеты, калі яна не паважае сябе, не хоча лічыцца з інтарэсамі сваіх падпісчыкаў?

Відаць, таму, што работнікі рэдакцыі, і ў першую чаргу рэдактар **Бікашоў** і яго намеснік **Грук** безадказна адносяцца да сваёй справы.

Нельга здзекавацца над чытачом. Партыя патрабуе чулых, уважлівых адносін да жывога чалавека. Чаму-ж таварышы, выпускаючыя «Чырвоную Тураўшчыну», не бачаць за газетным лістом жывога чалавека, не здавальняюць яго законных патрабаванняў?

Калі газета змагаецца з бракаробствам, то чаму-ж яна не выкараняе брак у сябе пад носам?

Гутарка ідзе аб большэвіцкіх і культурных адносінах да даручанай партыяй работы. Хіба не ганьбай для работнікаў раённай газеты з'яўляецца той факт, што пад «шапкай» «За мяжой» яны змяшчаюць прабыванне Лаваля ў Маскве.

Уся газета стракаціць карэктарскімі памылкамі, неграматнымі загалоўкамі.

Ці можна цярпець такое становішча. Зразумела, не. Райком партыі адказвае за свой орган. Райком партыі абавязан прыняць усе меры, каб «Чырвоная Тураўшчына» выходзіла чыста, акуратна, культурна, граматна, каб яна была прасякнута большэвіцкай завостранасцю і непрымірымасцю.

Ад саміх работнікаў-газетчыкаў патрабуецца значнае павышэнне сваёй кваліфікацыі. Лозунг вучыцца, вучыцца і вучыцца, авалодваць тэхнікай, павінен знайсці жывы водгук у штодзеннай рабоце рэдакцыйнага калектыва.

Райком павінен памятаць, што «кадры вырашаюць усё». І ўмацаванне большэвіцкімі кадрамі газеты, большэвіцкая дапамога ім, чулыя адносіны да іх—ёсць важнейшы абавязак партыйнага камітэта. Відаць, дасюль гэтага ў Тураве не было.

# Стрэл па нябачнай мішэні

Калі гаварыць аб ваеннай тэхніцы, то тут праблема стральбы па нябачнай мішэні вырашана даўно.

Жадаючы бліснуць арыгінальнасцю і паказаць узор аператыўнасці, рэдакцыя горацкай раённай газеты **«Ленінскі шлях»** (рэдактар т. Гольдшварц) рашыла прымяніць і ў друку стральбу па нябачнай мішэні.

На жаль, вынікі гэтага эксперымента атрымаліся даволі сумныя.

А было гэта так. Работнік рэдакцыі т. Бумажкоў крутнуў тэлефонную ручку, выклікаў Макараўскі сельсовет і запытаў:

— Якое там ёсць начальства? З вамі будзе гаварыць рэдакцыя.

Старшыні сельсовета на гэты час не было ў канцылярыі. Да тэлефона падышоў сакратар, з якім т. Бумажкоў і пачаў наступную гутарку.

**ПЫТАННЕ: скажыце, калі ласка, таварыш сакратар, чаму калгас «Комінтэрн» адстае па прапалцы зернавых і тэхнічных культур?**

**АДКАЗ: сапраўды калгас адстае. Прапалата ўсяго 7,5 гектараў азімых і яравых і 29 гектараў ільну. Узнята папару 8 гектараў замест 38.**

**ПЫТАННЕ: чым тлумачыцца такое становішча? Ці не таму, што ў калгасе адсутнічае, мабыць, належная арганізацыя работы, дысцыпліна і інш.?**

**АДКАЗ: я-б не сказаў гэтага, але справа ў тым, што сабатуе само праўленне калгаса. Між іншым павінен сказаць, што я аб калгасе «Комінтэрн» не ў курсе справы. Пагаварыце з аграномам Катульскім, ён толькі што прышоў з гэтага калгаса.**

Да тэлефона падыходзіць т. Катульскі. Супрацоўнік рэдакцыі т. Бумажкоў задае яму тыя-ж пытанні, што і сакратару сельсовета. Аграном прабуе давесці, што ў калгасе арганізаваны звенні і якасць прапалкі добрая. Гэта абурае Бумажкова.

— Дык чаму-ж адстае калгас, калі работа арганізавана правільна і якасць добрая?

Калі верыць Бумажкову, аграном не змог адказаць на гэта пытанне. Ён абяцаў дадаткова паведаміць рэдакцыю аб прычынах адставання калгаса «Комінтэрн» пасля таго, як скончыцца пленум сельсовета.

Ніякіх дадатковых інфармацый па сутнасці Бумажкову і не трэба было. Ён і без іх атрымаў бліскучае ўяўленне аб сапраўдным становішчы ў калгасе «Комінтэрн». Не трацячы ні адной хвіліны, ён піша артыкул і робіць такі «павучальны» аналіз толькі што праведзенай гутаркі:

**«Для чаго мы прывялі гэтую гутарку? Для таго, каб паказаць як людзі на мясцах бываючы ў калгасе і не ўнікаюць у дэталі калгаснай работы. Як людзі толькі цікавяцца сухімі лічбамі, а аб тым, як арганізавана работа, чаму адстае калгас гэта не датычыцца».**

Стыль забойчы. Граматнасць жудасная. Бумажкоў расхадзіўся не на жарты. Заявіўшы, што прычына адставання калгаса не ў сабатажы, Бумажкоў робіць канчатковы безапеляцыйны вывад:

**«Справа ў калгасе «Комінтэрн» у тым, што праца на прапалцы арганізавана дрэнна. Звенні вылучаны фармальна, індывідуальнай здзельшчыны няма».**

Пажурыўшы яшчэ крыху сельсавецкае начальства і агранома за тое, што яны, бываючы ў калгасах, нічога там не бачаць, аўтар прапануе ўлічыць усе гэтыя ўрокі.

Карэспандэнцыя гатова. Яна спешна перадрукоўваецца, ставіцца подпіс «Бумажкоў», а зверху вялікімі літарамі набіраецца загаловак: «Цікавяцца толькі голымі лічбамі».

На заўтра, 12 чэрвеня, гэты твор выходзіць у свет. Ён надрукован на першай старонцы газеты «Ленінскі шлях». Рэдактар радуецца:

— Які прыгожы нумар. І галоўнае — гутарка па тэлефону. Аператыўнасць. Канкрэтнасць.

На жаль, у той-жа дзень прыемны настрой рэдактара быў сапсаваны. З калгаса «Комінтэрн» вярнуўся спецыяльны карэспандэнт «Звязды» і расказаў т. Гольдшварцу аб узорнай арганізацыі працы на прапалцы ў калгасе... «Комінтэрн». Так-так, іменна ўзорнай арганізацыі працы ў тым калгасе, якія дасціпны Бумажкоў так раскрытыкаваў у газеце. Аказваецца, у гэтым калгасе і звенні арганізаваны, і індывідуальная здзельшчына ўведзена, і спаборніцтва паміж калгаснікамі разгорнута, і прапалку ільну калгас скончыў своечасова. Станоўчую карэспандэнцыю аб арганізацыі сіл на прапалцы ў калгасе «Комінтэрн» «Звязда» надрукавала ў нумары за 15 чэрвеня.

З рэдактарам горацкай газеты вышаў канфуз. Бумажкоў атрымаў ад рэдактара вымову. Але-ж сваю памылку рэдакцыя не выправіла. У чытачоў «Ленінскага шляха» так і асталася думка, што ў калгасе «Комінтэрн» праца арганізавана дрэнна.

Прыведзены прыклад выходзіць за межы аднаго Горацкага раёна. За апошні час многія рэдакцыі лёгкадумна падыходзяць да арганізацыі матэрыялаў па тэлефону, праз людзей, якія не ведаюць сапраўднага становішча ў тым ці іншым калгасе, соўгасе, прадпрыемстве. Трэба зразумець, што друкаванне такіх павярхоўных тэлефонных гутарак ёсць апашленне аператыўнасці бальшавіцкага друку.

———□□ □□———



Інструктары раённых газет БССР у рэдакцыі «Большэвіцкі друк».

# ПАЧАТАК ПЕРАБУДОВЫ

(З ДЗЁННІКА БРЫГАДЫ «БОЛЬШЭВІЦКАГА ДРУКУ»).

**◆ У маі месяцы рэдакцыя нашага журнала накіравала ў рэдакцыю лёзненскай раённай газеты «ЛЕНІНСКІ СЦЯГ» двух сваіх работнікаў. ◆ Таварышы прабылі ў рэдакцыі «Ленінскага сцяга» больш двух тыдняў. Яны прымалі непасрэдны ўдзел ва ўсёй рабоце газеты — ад складання плана і правядзення масавай работы да літаратурнай апрацоўкі заметак. ◆ Брыгада журнала вучыла работнікаў «Ленінскага сцяга» лепш выпускаць газету, пашыраць яе тэматыку, рабіць простай, даступнай масаваму чытачу мову газеты, працаваць над пісьмамі працоўных, з рабселькорамі і актывам. У мінулым нумары журнала змешчан артыкул «Пад шыльдай аб'ектыўных прычын», які паказаў рэдакцыю лёзненскай газеты такой, якою яе застала брыгада журнала.**

**Ніжэй друкуем рад матэрыялаў, якія адбіваюць работу рэдакцыі «Ленінскага сцяга» сумесна з брыгадай журнала па паляпшэнню ўсяго зместу раённай газеты.**

Пачалі з людзей. Знаёмімся, што робіць кожны работнік рэдакцыі. Тав. **Горбараў** лічыцца сакратаром рэдакцыі. Фактычна функцый сакратара не выконвае, а арганізоўвае матэрыял для газеты. Па сутнасці гэта загадчык сельскагаспадарчага аддзела. Чаму яго лічаць у рэдакцыі сакратаром — невядома.

Малады селькор-вылучэнец т. **Шуранкоў** працуе карэктарам. Ініцыятыўнага энергічнага хлапца трымаюць толькі на праўцы карэктуры. Адразу відаць —чалавек незадаволен: хочацца жывой работы ў калгасах, арганізоўваць матэрыял, працаваць з селькорамі. Дый праўка ў яго дрэнная: у граматыцы т. Шуранкоў невялікі знаўца.

Двух другіх работнікаў рэдакцыі — комуністку **Нячаеву і Фельдмана** — велічаюць літработнікамі. Гэта па ведамасці, а на справе круг абавязкаў кожнага з іх устанавіць цяжка.

Пісьмамі працоўных займаюцца ўсе па крысе і ніхто так, як належыць. Успамінаюць, што работа з пісьмамі калісь была даручана т. Горбараву. Але Горбараў апошні месяц кіраваў выязной рэдакцыяй у сельсавеце. Хто-ж займаўся пісьмамі, калі адсутнічаў Горбараў? Ніхто. Апеку над пісьмамі ўзяла машыністка т. **Барадулькіна.** Яна падшывае пісьмы ў архіў, пасылае на расследванне, пасылае напамінкі, падшывае атрыманыя адказы...

Заметкі без усякага ўліку бярэ любы работнік рэдакцыі. Спадабаецца — апрацоўвае і здае ў набор, не спадабаецца — накладае на пісьмо рэзалюцыю, і ў архіў. Пісьмы, заметкі параскіданы па ўсіх сталах, яны ляжаць на этажэрках, на крэслах і нават на падлозе.

Папрабуйце даведацца, хто тут за што нясе адказнасць, хто адказвае за допісы, за падрыхтоўку таго ці іншага матэрыялу? Людзі ёсць, а папрабаваць няма ў каго: ніхто з работнікаў рэдакцыі не ведае, за што ён адказвае.

Садзімся разам з рэдактарам і думаем, як расставіць людзей, як размяркаваць абавязкі ў рэдакцыі. Абмеркавалі. і рэдактар піша загад. Горбараў будзе загадчыкам сельскагаспадарчага аддзела. Яго справа — весці ў газеце пытанні сяўбы, праполкі, уборкі, загатовак, жывёлагадоўлі. Ён выпрацоўвае план работы свайго аддзела, наладжвае сувязь з селькорамі, звязваецца з аграномамі і іншымі спецыялістамі.

Сакратаром рэдакцыі вызначаецца т. Нячаева. Зусім падыходзячая кандыдатура. Акуратная работніца, граматная начытаная. Яе абавязкі — сачыць за здачай матэрыялу па плану, здаваць матэрыял у набор, вярстаць паласы, сачыць за карэктурай. Акрамя таго яна будзе весці аддзел пісем: прачытваць усю карэспандэнцыю, адбіраць пісьмы для аддзела «Кароткія сігналы». Астатнюю карэспандэнцыю яна здае т. Горбараву, ці другім работнікам. Запісвае.

каму і якія пісьмы зданы. Нячаева-ж адказвае за пасылку пісем на расследванне, будзе сачыць за акуратным рэагаваннем, арганізоўваць перапіску з селькорамі. Ёй у дапамогу вызначаецца т. Шуранкоў, які будзе цяпер інструктарам нізавога друку і рабселькораў, і машыністка т. Барадулькіна.

Атрымаў поўную нагрузку і т. Фельдман. Ён работнік граматны — будзе карэктаваць газету і рыхтаваць аддзел інфармацыі.

Вызначаны канкрэтныя абавязкі і двум студэнтам Магілеўскага газетнага тэхнікума, якія прыехалі ў рэдакцыю на практыку — тт. **Якавенку і Рутноўскаму**. Першы будзе літработнікам сельскагаспадарчага аддзела, другі — інструктарам-масавіком.

Партыйны аддзел і пытанні культурнага будаўніцтва ўзяў на сябе сам рэдактар.

І так тыя-ж людзі, толькі атрымаўшыя поўную нагрузку, даведаўшыся, што кожны з іх павінен рабіць, прадаўжаюць работу.

**2.**

Заўтра трэба здаць матэрыял для чарговага нумара. Часу мала, але нумар павінен выйсці змястоўны і цікавы. Тым больш, што праз два дні раённая канферэнцыя спачуваючых. Аб рабоце са спачуваючымі ў нумары трэба даць цэлую паласу.

Складаем план, вызначаем хто, адкуль і які матэрыял будзе арганізоўваць.

Усю першую старонку і частку другой займе прамова тав. **Сталіна** аб кадрах.

У рэдакцыі вядома, што партгрупа мясцовага ільназавода ўзорна паставіла работу са спачуваючымі. Рашаем даць шырокі паказ вопыту работы гэтай партгрупы. Будзе арганізован артыкул парторга т. Сыркінай і заметкі двух лепшых спачуваючых. Тав. **Мінчукоў** піша перадавы артыкул аб стане работы са спачуваючымі па раёну. Нядаўна на бюро райкома слухаліся даклады парторгаў аб рабоце са спачуваючымі, таму рашаем на гэту-ж старонку даць заметку «У райкоме партыі». Матэрыял аб спачуваючых пойдзе на 3-й паласе.

Другую паласу запоўнім падборкай аб сяўбе і падборкай аб ходзе падпіскі на пазыку.

Чацвертая паласа — інфармацыя. Рашаем на чацвертай паласе ўвесь час даваць выключна інфармацыю: замежную, па Саюзу і БССР і па раёну. У гэтым нумары, як выключэнне (больш паласы займае прамова т. Сталіна), адводзім адну калонку для аддзела «Кароткія сігналы».

Абмяркоўваем, якую інфармацыю можам арганізаваць у нумар. Рашаем змясціць гутарку з дырэктарам раённага ўнівермага. Селькор С. Шаірка прыслаў заметку аб раённым доме адпачынку калгаснікаў-ударнікаў — добрая, свежая інфармацыя. Лёзненскі ільнозавод датэрмінова выканаў промфінплан —даем таксама заметку. Селькор прыслаў заметку аб тым, што калгас «Днепрабуд» абсаджвае дарогу прысадамі — таксама вельмі важная і цікавая інфармацыя, дамо ў нумар. Тав. Гельфанд пойдзе ў райміліцыю і возьме матэрыял аб фактах парушэння пашпартнай сістэмы ў раёне. Нарэшце, поўныя дзве калонкі адводзім замежнай інфармацыі.

Прадбачыцца змястоўны, цікавы нумар, з разнастайным матэрыялам. Кожны работнік рэдакцыі ведае, што яму трэба зрабіць к нумару. Таварышы бяруцца за справу.

**3.**

Нумар вышаў. Чыгункай, на падводах пяць тысяч экземпляраў газет развозяцца па сельсоветах, калгасах, школах, ільнозаводах — к чытачам. Цяпер дапушчаную памылку можна паправіць толькі ў чарговым нумары. Свежы нумар газеты, такім як ён вышаў з-пад вала друкарскай машыны, прадстае перад сваім галоўным суддзёй — чытачом.

— Байцы, на лятучку! — чуваць голас у суседнім пакоі.

(У работнікаў рэдакцыі яшчэ свежы ў памяці нарыс **М. Кальцова** «Бальшэвік у газеце»).

— На лятучку!

Гэта будзе першая лятучка, прысвечаная крытыцы нумара, за ўвесь час існавання газеты. Усе работнікі рэдакцыі, а таксама загадчык друкарні і метранпаж заходзяць у габінет рэдактара. У кожнага ў руках свежы нумар газеты.

Гаворыць усе. Гаворыць Горбараў, гаворыць Нячаева, Шуранкоў, метранпаж, гаворыць рэдактар Мінчукоў.

Бясспрэчна, нумар вышаў значна лепшым, чым ранейшыя нумары. Гэта адзначаюць усе выступаючыя. Але лятучка — гэта перш за ўсё жорсткая крытыка нумара, крытыка самых яго тварцоў, крытыка для таго, каб чарговы нумар быў лепшым, чым сёнешні. І так павінна быць пасля выхаду кожнага нумара.

Тым больш, што нумар можна было-б зрабіць значна лепшым. Многа дакораў пасылаецца па адрасу т. Горбарава, які вярстаў нумар. Вёрстка сапраўды прымушае чакаць шмат лепшага. Дагаварыліся інфармацыю змясціць на чацвертай паласе, а змешчана яна па кавалках і на другой паласе, і на трэцяй, і на чацвертай. У паласу аб рабоце са спачуваючымі ні з таго ні з сяго загналі заметку «На беразе ракі Чарніцы» аб калгасным доме адпачынку. Гутарка з дырэктарам універмага папала ў падборку аб сяўбе.

У першага выпускаючага «Ленінскага сцяга» быў дрэнны густ. Ён прывучыў метранпажа аддзяляць падборкі рознымі ўзорчатымі лінейкамі, кропачкамі, выкрунтасамі. Так з тых даўных часоў і выходзіць газета, падобная з знадворнага выгляду на тэатральную афішу. Цвёрда рашаем — не ўжываць выкрунтасаў, аддзяляць адзелы жырнымі ці двума светлымі лінейкамі. Так будзе сур'ёзней і прыямней выглядаць газета.

Высвятляецца, што на вёрстку газеты раней у рэдакцыі наогул ніякай увагі не звярачалі. Прынцып быў такі — стаў матэрыял туды, куды ён улазіць. Аб тым, што заметкі можна скарачаць, у рэдакцыі не ведалі. Наогул скарачаць тут не прывыклі, ці не таму так многа яшчэ ў газеце «вады».

Аднак, крытыкуецца не толькі нявдалая вёрстка. У стылі часткі заметак не прыкметна ніякіх змен к лепшаму.

— Хто даваў матэрыял аб сяўбе?

— Хто правіў падборку аб пазыцы?

— Чаму ўсе заметкі з аддзела аб пазыцы падобны адна да адной? Хто апрацоўваў?

Знаходзяцца вінаватыя і атрымліваюць па заслугах. Робіцца вывад — рашуча палепшыць стыль матэрыялаў. Ні адна дрэнна апрацаваная заметка, ні адзін няўдалы загаловак, «шапка» не павінны больш пападаць у газету. Кожны работнік персанальна адказвае за якасць зданага ім матэрыялу. Перш чым аддаць заметку рэдактару, кожны работнік павінен два, а то і тры разы перапісаць яе ў працэсе апрацоўкі.

Скончана абгаварэнне нумара. Рэдактар чытае намечаны план двух чарговых нумароў. План абмяркоўваецца, дапаўняецца. Нарэшце, план зацверджан, лятучка скончана, пачынаецца рабочы дзень рэдакцыйнага калектыва.

4. Прыгледзеліся да работы работнікаў рэдакцыі над пісьмом і карэспандэнцыяй перад здачай у набор. Матэрыял работнікі апрацоўваюць дрэнна, абы з рук збыць. Загалоўкі і «шапкі» даюцца звычайна рэдактарам пры вёрстцы. Адгэтуль і іх нізкая якасць. Праводзім заняткі на тэмы: «Работа з пісьмом» і «загаловак і «шапка» ў газеце». Заняткі праходзілі жыва, бо праводзіліся на канкрэтных прыкладах з самой газеты. І пасля заняткаў і ў працэсе далейшай работы паказваем на канкрэтных карэспандэнцыях, як трэба апрацоўваць і падаваць у газету матэрыял. Рэзультат хутка сказаўся. Супрацоўнікі рэдакцыі сталі больш працаваць над заметкамі, даваць загалоўкі і «шапкі», не спадзяваючыся толькі на рэдактара.

Паказалі, як трэба афармляць газету (вёрстка). Пры вёрстцы сталі ўжываць прамыя лінейкі, замест розных дэкаратыўных завітушак. Выгляд газеты ў выніку стаў значна лепшым.

Гутарылі ў РК КП(б)Б з інструктарамі. Дагаварыліся, каб у кожны нумар яны давалі матэрыял на партыйныя тэмы. Тут-жа разам з імі апрацавалі матэрыял з партыйнага жыцця, паказваючы, як трэба асвятляць такія пытанні і па якіх пытаннях партыйнага будаўніцтва трэба пісаць. Інструктары сваё абяцанне выконваюць. У кожным нумары даецца аддзел «На партыйныя тэмы». Змяшчаецца матэрыял аб якасці партвучобы, аб «партыйнай гаспадарцы», аб рабоце са спачуваючымі і інш.

5. Выязджалі ў Крынкаўскі і Веляшкоўскі сельсоветы. Азнаёміліся з работай насценгазет калгасаў. Многа выявілі ненармальнасцей, памылак. Напрыклад, у калгасе «Новае жыццё» ў насценгазеце была змешчана кулацкая карыкатура. У калгасе «Асоавіяхім» былі дзве рэдкалегіі. Выбраная — нічога не рабіла, а нявыбраная, з вучняў, выпускала газету.

Склікалі па сельсаветах нарады членаў рэдкалегій насценгазет і на канкрэтных прыкладах паказалі, як не трэба і як трэба выпускаць насценгазету.

Пасля гэтых нарад па дагаворанасці з рэдакцыяй склікалі актыў селькораў. З'явілася 15 чалавек. Абмеркавалі адно пытанне: аб стварэнні пры рэдакцыі інстытута няштатных інструктароў-соцнамеснікаў і іх задачы. Нарада прайшла вельмі актыўна. Выступілі ўсе ўдзельнікі нарады, даўшы згоду працаваць няштатнымі інструктарамі. Абяцалі працаваць над сабою, дапамагчы рэдакцыі наладзіць работу насценгазет і работу з рабселькорамі, патрабавалі, каб і рэдакцыя працавала з імі, выхоўвала з іх сур'ёзных кваліфікаваных аўтароў, штодзенна звязвалася з імі, прыцягвала да актыўнай работы ў рэдакцыі. Рэдакцыя абяцала ўсе патрабаванні сваіх інструктароў-соцнамеснікаў выканаць, запрашаць іх на некалькі дзён для практычнай вучобы ў рэдакцыю.

Не практыкуе рэдакцыя «Ленінскага сцяга» нарад чытачоў. Каб зрабіць пачатак і ў гэтай справе, склікаем пры рэдакцыі невялічкую нараду чытачоў з раённага актыва. З'явіліся начальнік міліцыі, аграномы, загадчык райана, загадчык універмага, настаўнікі і інш. Многа рэдакцыі дала гэта нарада. Таварышы прапанавалі часцей склікаць пры рэдакцыі нарады спецыялістаў па розных пытаннях, указалі, што трэба ўсё больш расшыраць тэматыку газеты. Раённы аграном указаў, што ў раёне ёсць старая метэаралагічная станцыя, але рэдакцыя ні адной заметкі не прысвяціла ёй, як быццам яе няма. А колькі такіх цікавых пытанняў яшчэ ўпускае газета. Вырашана часцей склікаць такія нарады і нарады спецыялістаў і работнікаў асобных галін гаспадаркі. Прыцягнуць спецыялістаў, каб яны давалі папулярныя артыкулы па розных пытаннях.

6. Перад ад'ездам з Лёзны сумесна з работнікамі рэдакцыі выпрацавалі месячны план работы рэдакцыі. Намецілі рад новых пытанняў, якія трэба ўзняць на старонках газеты.

**Сакратар РК КП(б)Б Стронгін** запрасіў брыгаду і ўсіх работнікаў да сябе ў райком. Брыгада расказала, якое становішча рэдакцыі, што зроблена, ахарактарызавала кожнага работніка. Агульны вывад — рэдакцыя і пры гэтым складзе можа выпускаць добрую газету. Трэба толькі ліквідаваць выяўленыя недахопы, знішчыць расхлябанасць, якая раней была ў рэдакцыі.

Выступалі работнікі рэдакцыі, абавязаліся шырока скарыстаць вопыт работы брыгады.

Потым выступіў т. Стронгін, які намеціў рад мерапрыемстваў для палепшэння работы рэдакцыі, у прыватнасці абяцаў па магчымасці не адрываць на іншыя работы рэдактара газеты т. Мінчукова, чаго дагэтуль не прытрымліваліся.

Гутаркай у РК КП(б)Б закончыла брыгада сваю работу ў Лёзнянскім раёне.

**М. САКАЛОЎСКІ, Юр. БЕЛЬКО.**

**СТРОНГІН** — другі сакратар Лёзненскага РК КП(б)Б.

# *Газета стала жывей*

Многія рэдактары газет, у тым ліку і рэдактар нашага **«Ленінскага сцяга»** скардзяцца, што цяжка расшыраць тэматыку, бо не хапае месца: трэба асвятляць ход гаспадарча-палітычных кампаній. Наколькі гэта не ўгрунтавана, паказала брыгада журнала **«Большэвіцкі друк»**, якая працавала ў рэдакцыі нашай газеты больш двух тыдняў. Пры тым-жа фармаце і перыядычнасці газеты яна дабілася расшырэння тэматыкі, узняла некаторыя новыя пытанні. Расшырэнне тэматыкі нікольк не пашко-

дзіла і асвятленню ходу кампаніі (сяўба, падпіска па пазыку і інш.).

Асабліва многа ўвагі брыгада звярнула на асвятленне пытанняў партыйнага жыцця на старонках раённай газеты «Ленінскі сцяг». Праўда, зрэдку і раней асвятляліся гэтыя пытанні. Але рэдкія карэспандэнцыі аб партыйным будаўніцтве нічым не адрозніваліся ад іншых карэспандэнцый, змешчаных у газеце. Там больш гаварылася аб гаспадарчых справах калгаса ці ўстановы, чым аб партыйным жыцці.

Брыгада паказала, як трэба падаваць матэрыялы на партыйныя тэмы. У кожным нумары змяшчаліся карэспандэнцыі па розных пытаннях партыйнага жыцця: аб якасці партыйнай вучобы, партыйных сходах, «партыйнай гаспадарцы», аб рабоце са спачуваючымі і інш.

Уведзены новыя аддзелы ў газеце як «хроніка», «па раёну», «здарэнні», «на тэмы дня». Жывыя карэспандэнцыі з'явіліся на старонках газеты па пытаннях культурнага будаўніцтва, аб знатных людзях раёна. Лепшай стала вёрстка газеты, больш свежымі і палітычна завостранымі сталі шапкі і загалоўкі.

Брыгада прымала ўдзел у праводзімых па сельсоветах нарадах селькораў. Асабліва каштоўным, я лічу, з'яўляецца тое, што па ініцыятыве брыгады створан інстытут нештатных інструктараў раённай газеты—сацнамеснікаў. Гэта актыў, з якім трэба працаваць, які трэба выхоўваць і праз які можна наладзіць масавую работу сярод селькораў.

Лепшым вывадам аб рэзультатах работы брыгады журнала «Бальшэвіцкі друк» з'яўляюцца заявы работнікаў рэдакцыі «Ленінскага сцяга» аб тым, што яна аказала вялікую дапамогу і навучыла іх, як трэба працаваць.

Пажадана, каб «Бальшэвіцкі друк» часцей практыкаваў такія выезды і праз некаторы час прысылаў свайго работніка для праверкі, як ажыццяўляюцца раённай газетай прапановы брыгады.

Я. МІНЧУКОЎ—адказны рэдактар газеты «Ленінскі сцяг».

# Аўладаем тэхнікай сваёй справы



Расшырэнне тэматыкі, паляпшэнне літаратурнага і тэхнічнага афармлення газеты, паглыбленне работы з селькорамі—вось важнейшыя пытанні перабудовы раённай газеты. Без гэтых мерапрыемстваў немагчыма зрабіць газету баявой, аператыўнай, цікавай.

Раённая газета павінна адлюстроўваць цікавае і прыгожае жыццё працоўных нашай краіны, жыццё свайго раёна, выхоўваць працоўныя масы на прыкладах вялікай барацьбы за пабудову сацыялізма, якую вядуць рабочыя і калгаснік пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна.

Паўстае такое пытанне: як-жа наша газета «Ленінскі сцяг» спраўляецца з ускладзенымі на яе задачамі? Тут трэба проста сказаць, што далёка недастаткова. Традыцыя кампанейшчыны, вузкасць тэматыкі, недастатковая работа над стылем, слабая сувязь з селькорамі—усё гэта трэба прылічыць к недахопам нашай газеты.

Перабудаваць газету у адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі, гэта значыць у першую чаргу павышаць кваліфікацыю газетных работнікаў, выхоўваць іх у палітычных і культурных адносінах, расціць і выхоўваць аўтароў з ліку лепшых ударнікаў-селькораў. Гэта справа залежыць цалкам ад самога рэдактара, яго ўмення арганізаваць работу і вучобу работнікаў рэдакцыі і селькораў. У гэтым я добра ўпэўніўся ў часе двухтыднёвага прабывання ў нашай рэдакцыі брыгады журнала **«Бальшэвіцкі друк»**, якая дапамагла нам пачаць перабудову работы.

Нельга сказаць, што раней я не браў-

ся за перабудову, за ажыўленне газеты —браўся, але неяк усё не выходзіла. То ў мяне не хапала часу на арганізацыю вучобы ў рэдакцыі, то работнікаў не хапала. Трэба аддаць справядлівасць брыгадзе журнала: з яе дапамогай пры наяўнасці старога складу работнікаў рэдакцыі ў мяне знайшоўся час на правядзенне сістэматычнай вучобы ў рэдакцыі, а ў газеце знайшлося месца для новых пытанняў, якіх раней мы не асвятлялі.

Вялікай мудрасці на гэта не патрабавалася. Патрабавалася толькі жаданне і напорыстасць.

У работу рэдакцыі мы ўвялі строгую планавасць. Работнікаў рэдакцыі пераставілі ў адпаведнасці з іх палітычным развіццём і літаратурнай граматнасцю, прад'явілі большыя патрабаванні да кожнага як па лініі арганізацыі літаратурнай апрацоўкі матэрыялаў, так і па лініі вучобы.

На кароткіх штодзённых лятучках у рэдакцыі мы абмяркоўваем планы нумароў газет і нумары вышаўшых газет, крытыкуем нашы промахі і памылкі, стараемся іх не дапускаць у далейшым. Гэты від вучобы і работы адобран усімі работнікамі нашай рэдакцыі, і мы яго ўвялі ў сістэму. Апрача гэтага адзін раз у дэкаду мы займаемся прыкладна 2 гадзіны па вывучэнню ленінска-сталінскага вучэння аб ролі і задачах большэвіцкага друку. Мы ўвялі ў газеце аддзелы партжыцця і культурнага будаўніцтва, хроніку. Хоць якасць змяшчаемых у гэтых аддзелах матэрыялаў патрабуе яшчэ многа лепшага, але-ж бясспрэчным застаецца той факт, што газета пачала выходзіць за рамкі вузкакампанейскай работы, пачала станавіцца больш цікавай, чытабельнай. Гэта заўважылі нашы чытачы і паведамілі нам. Барацьба за большэвіцкія калгасы, заможнае і культурнае калгаснае жыццё высунула вялікую колькасць ударнікаў-герояў. Нам яшчэ не ўдаецца ў прыгожай літаратурнай форме паказваць гэтых людзей у сваёй газеце, але-ж за гэту справу мы ўзяліся і стараемся ў кожным нумары паказаць хоць па аднаму такому чалавеку. Вялікія запатрабаванні мы прад'явілі к самім сабе ў сэнсе аўладання тэхнікай газетнай мовы, без чаго нельга ажывіць газету. Каб даць найлепшую прадукцыю, нашы работнікі пачалі ўжо прывыкаць перапісваць сваю работу па 2—3 разы.

У нас слаба была пастаўлена работа з пісьмамі селькораў, і гэта адбілася на рабоце газеты. Цяпер мы справу з пісьмамі значна палепшылі: ліквідавалі залежы пісем у рэдакцыі, прыцягнулі да справы расследвання допісаў 17 чалавек нештатных нашых інструктароў, далі больш месца ў газеце для селькораўскіх пісем, дабіваемся хуткіх і дзейсных адказаў на кожнае пісьмо.

Атрымаўшы практычную дапамогу ад журнала «Большэвіцкі друк», усе нашы работнікі сталі больш думаць аб нашых чытачах, пачалі больш працаваць над сабой, знаходзіць больш цікавыя карэспандэнцыі селькораў, сур'ёзней узяліся за аўладанне тэхнікай газетнай справы.

**М. Е. НЯЧАЕВА**—сакратар рэдакцыі газеты «Ленінскі сцяг».

## *Аказана вялікая дапамога*



Працую ў рэдакцыі газеты «Ленінскі сцяг» усяго чатыры месяцы. Ніколі раней на газетнай рабоце не была, спецыяльнай падрыхтоўкі не маю.

Але, пачаўшы працаваць у газеце, я палюбіла гэту справу. Дрэнна толькі тое, што рэдакцыя не наладзіла тэхнічнай вучобы, не вучыць сваіх работнікаў, як лепш рабіць газету. Таму і працаваць вельмі цяжка.

Пералом у гэтым напрамку зроблен брыгадай журнала **«Большэвіцкі друк»**. На жаль, брыгада была ў нас усяго два тыдні. Але і за гэты кароткі тэрмін яна зрабіла вельмі многа. Правяла некалькі заняткаў з работнікамі рэдакцыі на тэмы: «як трэба працаваць над

заметкай», «шапкі і загалоўкі ў газеце» і інш.

Брыгада ўвяла разбор на рэдакцыйных нарадах выпушчаных нумароў газет, што раней у нас не практыкавалася (рэдакцыйных нарад у нас раней наогул не было). Гэта таксама для нас вучэба, бо, выкрываючы недахопы вышаўшых нумароў, мы вучымся як трэба працаваць, каб не паўтараць гэтых недахопаў.

За час прабывання ў рэдакцыі работнікі журнала «Большэвіцкі друк» кожны дзень на канкрэтных прыкладах паказвалі нам, як трэба працаваць з пісьмом, як трэба апрацоўваць карэспандэнцыі і ў якой форме іх падаваць.

У рэзультаце работы брыгады газета наша стала значна лепшай і па зместу і па афармленню. Самым-жа каштоўным рэзультатам работы брыгады з'яўляецца тое, што мы ўсе сталі адчуваць, што мала працуем над сабой. мала працуем над тым матэрыялам, які здаем у набор. Я асабіста больш зараз працую над заметкай, чым раней, больш працую над павышэннем сваіх тэхнічных і палітычных ведаў.

Брыгада дапамагла нам правільна расставіць сілы. Я раней не мела пэўнай нагрузкі, часамі не ведала, што рабіць. Зараз я прызначана сакратаром рэдакцыі і, скарыстаўшы вопыт і дапамогу брыгады «Большэвіцкага друку», пастараюся з гонарам апраўдаць сваё назначэнне.

Міх. **ШУРАНКОЎ**—інструктар па рабоце з рабселькорамі.

# *Поспехі трэба замацаваць*



Брыгада журнала **«Большэвіцкі друк»** унесла многа новага ў работу нашай газеты.

Возьмем хоць-бы «лятучкі» для крытыкі кожнага вышаўшага нумара. Калі была праведзена першая рэдакцыйная лятучка, мы ўбачылі, наколькі гэта мерапрыемства дапамагае ў барацьбе за паляпшэнне газеты.

Амаль усе таварышы выступалі, крытыкавалі асобныя матэрыялы. І тым таварышам, якія здалі ў газету дрэнна апрацаваны матэрыял, нядалую «шапку», загаловак, прышлося чырванець. Але гэта пашло на карысць: усе таварышы адчулі большую адказнасць за сваю работу, сталі прад'яўляць да сябе большыя патрабаванні.

Прыклад магу ўзяць з сябе. Раней, бывала, над заметкай працуеш нядоўга: раз-два і гатова. Загаловак не дасі. Ёсць-жа, думаеш, рэдактар, ён паправіць і загаловак дасць. Так і пападалі ў нашу газету заметкі неапрацаваныя, напісаныя каравай, пратакольнай мовай.

Добра зрабілі таварышы з «Большэвіцкага друку», што паказалі нам, як трэба арганізоўваць вучобу ў рэдакцыі. У прысутнасці брыгады журнала мы правялі два разы тэарэтычныя заняткі. Таварышы загадзя рыхтаваліся да заняткаў, чыталі адпаведную літаратуру, прыводзілі характэрныя прыклады з камплекта нашай газеты. Заняткі прайшлі жыва і цікава.

Адно толькі непакоіць мяне: вось паехалі таварышы з «Большэвіцкага друку». Як-бы ўсё тое новае, што ўведзена ў нашай рэдакцыі, не асталося толькі прыемным успамінам.

Таму галоўная задача кіраўніцтва рэдакцыі — замацаваць першыя поспехі ў нашай рабоце, дасягнутыя з дапамогай брыгады.

# ЧАМУ ў „Калгаснік Любаньшчыны“ НЕ ПІШУЦЬ СЕЛЬКОРЫ

Е. ВАЛЬФСОН.

— Скажыце, калі ласка, як прайсці ў рэдакцыю раённай газеты? —з такім пытаннем звярнуўся аўтар гэтых радкоў да прахожага на вуліцы мястэчка Любань.




На твары прахожага з'явіўся выраз крайняга здзіўлення:

— «Вы хочаце папасці ў рэдакцыю? Рызыкоўнае прадпрыемства! Але, калі вы добры спартсмен — папрабуйце»...

Я быў здзіўлен гэтым таямнічым папярэджаннем і пашоў ва ўказаным кірунку.

Вось і будынак рэдакцыі газеты **«Калгаснік Любаньшчыны»**. Узыходжу на ганак і... праваліваюся паміж дошкамі. Адна дошка нейкім чынам падняласяі моцна б'е мяне па галаве.

Пакуль збянтэжаны я вылажу з пасткі, ля ганка збіраецца натоўп. Па ўсяму відаць, што для жыхароў мястэчка здарэнні на рэдакцыйным ганку сталі пастаянным відовішчам з моцнымі адчуваннямі.

Адзін падышоў да мяне і пачаў падбадзёрваць:

— Не бядуйце, таварыш! Не вы—першы, не вы—апошні. На гэтым праклятым ганку штодня чалавек тры-чатыры церпяць крушэнне. Учора адна жанчына з малым дзіцём прабавала папасці ў рэдакцыю і таксама правалілася

Я прывёў у парадак памяты свой гарнітур, выслухаў яшчэ некалькі падобных гісторый і адчыніў дзверы.

Рэдакцыя раённай газеты... Не, не падобна на рэдакцыю тое, што прадстала перад маімі вачыма!

Здавалася, што ў гэтым цесным пакойчыку людзі спаборнічаюць на тое, хто каго перакрычыць. Накурана так, што сілуэты людзей ледзь відны...

Не гледзячы на позні час, работнікі рэдакцыі з запалам, вартым лепшага прымянення, займаюцца расказваннем анекдотаў.

У пакоі працуюць сем работнікаў рэдакцыі: сакратар т. **Касцюковец,** загадчык сельскагаспадарчым аддзелам т. **Курганскі,** інструктар т. **Плянто,** рахункавод—ён-жа фактычна загадчык аддзела пісем—т. **Кацнельсон** і тры практыканты-студэнты Магілеўскага газетнага тэхнікума тт. **Дубоўскі, Несцераў і Рабая.**

Можна сабе ўявіць умовы работы супрацоўнікаў любаньскай газеты!

Рэдактар т. **Зайцаў** прышоў роўна ў 12 гадзін. Закурыў папіросу, зазірнуў к работнікам рэдакцыі і, не сказаўшы ні слова, пашоў у райком партыі.

Гутарым з работнікам рэдакцыі аб культуры ў раёне і ў самой рэдакцыі.

— Паход за культуру мы пачалі, змясцілі калісь некалькі заметак, потым неяк закінулі гэту справу,—гаворыць тав. Касцюковец.

Па кампЛекту ўстанаўляем, што ў «Калгасніку Любаньшчыны» сапраўды ў студзені было змешчана некалькі заметак аб культпаходзе ў калгасах. Знайшлі заметку з калгаса «Першае жніўвя», у якой расказвалася, што калгаснікі прыводзяць у парадак свае хаты, рэгулярна мыюць падлогу, будуюць лазню, чытаюць мастацкую літаратуру.

Былі падобныя заметкі і з іншых калгасаў. Адчуваецца, што перадавыя калгасы раёна з поспехам вядуць культпаход. Але рэдакцыя хутка забыла пра культпаход. Яно і зразумела, як можа рэдакцыя сур'ёзна агітаваць за культуру, калі яна сама паказвае прыклад поўнага бескультур'я?

Амаль ніхто з работнікаў рэдакцыі не чытае мастацкай літаратуры. Не ўсе

работнікі нават газеты ўважліва праглядаюць.

Тав. Плянто лічыцца ў рэдакцыі інструктарам, але у калгасы выязджае вельмі рэдка. У 10 гадзін раніцы ён прыходзіць у рэдакцыю, садзіцца за стол, закурвае і пачынае іграць у шахматы з кім-небудзь з супрацоўнікаў. Ігра цягнецца 2—3 гадзіны. У поўдзень Плянто накіроўваецца абедаць і больш ужо ў рэдакцыю не варочаецца. Вось тыповы «рабочы» дзень інструктара Плянто.

Цэнтральныя газеты Плянто чытае толькі ў выключных выпадках, не гаворачы ўжо пра мастацкую літаратуру.

Аб тым, як арганізавана работа ў рэдакцыі, ярка гаворыць і такі факт: 23 мая Плянто атрымаў ад рэдактара заданне выехаць у гэты-ж дзень у соўгас «Загалле». Прайшло 23, 24, 25, 26 мая, а Плянто ўсё яшчэ не выехаў. Кожную раніцу, увайшоўшы ў рэдакцыю, ён папярэджвае:

— «Ну, сёння ўжо выеду ў соўгас».




Трэба спыніцца і на работніку рэдакцыі тав. Кацнельсоне. Па штату ён лічыцца рахункаводам, але адначасова з'яўляецца загадчыкам гаспадаркі і аддзела пісем рабочых і калгаснікаў.

Што-ж гэта за работнік? Гэта зусім адсталы чалавек і палітычна і культурна. Газет ён зусім не чытае. Не ведае нават такіх кніг з мастацкай літаратуры, як «Поднятая целина» Шолахава і «Дрыгва» Коласа.

У рэдакцыі ніхто не цікавіцца гэтым работнікам. Ніхто не гутарыць з ім аб яго рабоце, не раяць яму што чытаць, як працаваць над сабой.

Пакуль рэдактар знаходзіцца ў райкоме, работнікі рэдакцыі не ведаюць, за што ўзяцца. Расказваць анекдоты абрыдла, у шахматы нагуляліся, усе здарэнні ў мястэчку за апошні тыдзень гамамі падрабязна абгавораны. Чым заняцца? Плана работы ў рэдакцыі няма.

Збіраю ўсіх работнікаў рэдакцыі і заводжу гутарку. Пытаюся ў таварышоў, як жывуць, як адпачываюць, што новага ў раённым цэнтры.

Таварышы скардзяцца на адсутнасць у мястэчку ўсякай культурнай работы. Дом соцкультуры працуе дрэнна, у чытальні беспарадак. Зусім незавідную ацэнку атрымлівае санітарны стан мястэчка: тратуары паламаны, поўныя гразі вуліцы...

— Чаму-ж газета не піша аб усім гэтым? Чаму-ж вы не падганяеце раённыя ўстановы, не ўказваеце, што трэба рабіць?

Маўчаць работнікі «Калгасніка Любаньшчыны». Потым чуецца нясмелы голас:

— Не пішуць нам аб усім гэтым. Не было заметак па гэтых пытаннях...

Газета жыве выключна **самацёчным матэрыялам.** Тут нават не ведаюць, што на тое і работнікі рэдакцыі існуюць, каб арганізаваць патрэбны матэрыял, накіроўваць увагу селькораў на важнейшыя пытанні палітычнага, гаспадарчага і культурнага жыцця раёна.

Свае абавязкі работнікі любаньскай газеты ўяўляюць так: сядзець у рэдакцыі і чакаць; прынеслі селькораўскія заметкі—апрацаваць іх крыху і ў набор.

Але селькоры рэдка пішуць у «Калгаснік Любаньшчыны». Вось цыфры: за першыя пяць месяцаў гэтага года рэдакцыя атрымала 738 пісем.

У часе сяўбы бывалі дні, у якія атрымлівалі па 5—6 пісем, гэта выключная рэдкасць! А звычайна у дзень прыходзіць 2—3 пісьмы.

Чаму селькоры не пішуць у любаньскую газету? Таму, што рэдакцыя не вядзе амаль ніякай работы з селькорамі, не вучыць іх, не выхоўвае з селькораў аўтараў. Таму, што работа і над той невялікай колькасцю пісем, што

рэдакцыя атрымлівае, пастаўлена надзвычай агідна.

Атрыманыя пісьмы адразу пападаюць тав. Кацнельсону. Ён іх рэгіструе і перадае загадчыку сельскагаспадарчым аддзелам Курчанскаму. Частку пісем Курчанскі рашае змясціць у газету, а астатнія варочае Кацнельсону, наклаўшы на пісьмы стандартную рэзалюцыю **«да друку не падыходзіць».**

Рэдактар т. Зайцаў не чытае пісем, не заглядае ў архіў, не сочыць за дзейснасцю пісем. Большасць пісем, змешчаных у газеце, не атрымалі ніякага рэагавання.

Рэдактар і работнікі рэдакцыі сваімі безадказнымі адносінамі да справы, сваім нежаданнем працаваць па-бальшэвіцку давялі газету да таго, што з ёю **амаль ніхто з раённых арганізацый не лічыцца.**

Характэрны факт. Я пацікавіўся, якія меры прымаюць раённыя арганізацыі па дасланых з рэдакцыі заметках. Аказалася, што рэдакцыя зусім не турбуе раённыя ўстановы расследваннем заметак. За першыя пяць месяцаў 1935 года рэдакцыя паслала ў райза для расследвання **толькі дзве заметкі і ў райана—тры заметкі.** У другія ўстановы пісем не пасылалі.

Чаму так атрымалася, нецяжка высветліць пры бліжэйшым знаёмстве з метадамі работы рэдакцыі любаньскай газеты. Рэдактар газеты Зайцаў прытрымліваецца такога «мудрага» правіла:

— Не чапай другіх, і цябе не зачэпяць.

Гэтым тлумачыцца і тое, што любаньская газета старанна абыходзіць сваёй крытыкай работу раённых арганізацый, і тое, што рэдакцыя не пасылае ў раённыя ўстановы допісаў для расследвання. Нашто, моў, дакучаць раённым установам, ці не лепш жыць з імі ў ладу па-добрасуседску?

Але ўстае пытанне: што-ж рэдакцыя робіць з допісамі рабселькораў, якія ў газеце не змешчаны і патрабуюць расследвання. Можа гэтыя допісы расследуюцца **работнікамі рэдакцыі?** Нічога падобнага. У рэдакцыі любаньскай газеты з такімі допісамі паступаюць больш проста—кладуць іх у архіў з рэзалюцыямі **«да друку не падыходзіць».**

— Нашто нам пасылаць пісьмы на расследванне?—заяўляе рэдактар К. Зайцаў.—Няхай селькор сам дабіваецца рэагавання. Мы паслалі селькорам пісьмо з указаннем, каб яны самі дабіваліся рэагавання на свае сігналы.

Да гэтага заяўлення Зайцава наўрад ці трэба што-небудзь дадаваць.

Заглянулі мы ў архіў нескарыстаных допісаў, прысланых у «Калгаснік Любаньшчыны». Ад пачатку года сюды трапілі больш 250 пісем. Што гэта за пісьмы?

У архіве знаходзіцца пісьмо селькора т. Маргуна з калгаса «Серп і молат». Селькор пісаў аб тым, што ў калгасе беспакарана арудуюць класава-варожыя элементы, адсутнічае варта і т. д. Рэзалюцыя—«У архіў, да друку не падыходзіць».

Праз некаторы час у калгасе «Серп і молат» здарыўся пажар. Бяду можна было-б папярэдзіць, калі-б рэдакцыя дала ход заметцы селькора Маргуна.

Такіх важных заметак з рэзалюцыямі «Да друку не падыходзіць» мы налічылі ў архіве дзесяткі.

Вось чаму рэдакцыя «Калгасніка Любаньшчыны» атрымлівае ў дзень толькі 2—3 пісьмы, вось чаму селькоры не хочуць пісаць у раённую газету.

Любаньскі райком партыі павінен сур'ёзна заняцца сваім друкаваным органам.



# ПЛАН І РЭЧАІСНАСЦЬ

* * * **А. МАТУСЕВІЧ.** * * *

Па традыцыях былой капыльскай палітаддзельскай газеты «За большэвіцкія калгасы» тав. **Шэўчэнка**—сёння адказны рэдактар ветрынскай раённай газеты **«Сталінец»,** прыступіўшы да работы ў новым раёне, склаў тэматычны план важнейшых масавых мерапрыемстваў газеты. План быў абмяркован і зацверджан райкомам КП(б)Б.

Справа каштоўная. Мець плаўны тэматычны план важнейшых мерапрыемстваў газеты, у якім прадугледжваецца не толькі калі, але і хто праводзіць тую ці іншую работу—справа неабходная. Але каштоўнасць усякага найпрыгажэйшага плана акрэсліваецца яго канкрэтным выкананнем. І вось тут, у гэтай галіне, у рэдакцыі ветрынскай газеты атрымалася не зусім гладка.

24 важнейшыя мерапрыемствы намеціла ў сваім плане рэдакцыя. І ўсё гэта «на час веснавой сяўбы». Сярод гэтых мерапрыемстваў: палітдні селькора, злёты конюхаў, вечары сейбітаў, сустрэчы двух парторгаў, вечары двух спаборнічаючых калгасаў і т. д. і т. п. У сваім тэматычным плане рэдакцыя прадбачыла яшчэ нараду ўпершыню выбраных членаў сельсаветаў, рэйд калгасніц-ударніц у дзіцячыя яслі, сустрэчу двух жывёлагадоўчых брыгад, нараду па ільну ўдарніц калгаса імя Молатава. Рэдакцыя меркавала правесці гутаркі рэдакцыі з парторгамі калгасаў і паказаць расстаноўку камсамольскіх сіл у калгасе ў часе сяўбы.

І так план будучай масавай работы газеты складзен. У асобных яго пунктах указана, пад якімі лозунгамі павінна праводзіцца тое ці іншае мерапрыемства. У двух мясцах нават зроблена заўвага адносна літаратуры, якую пажадана прачытаць да правядзення дадзенага мерапрыемства.

Але ў плане адзін істотны недахоп: у ім не відаць, хто з чатырох наяўных работнікаў рэдакцыі праводзіць вызначаную ў плане работу. І галоўнае—не відаць, калі праводзіцца вызначанае мерапрыемства: у маі ці ў чэрвені, увесну ці пад восень.

Асобныя свае мерапрыемствы газета ўсё-ж правяла, але правяла не пры тых высокіх якасных паказальніках і ўвазе да праведзенай работы, як-бы гэта можна было зрабіць ва ўмовах Ветрынскага раёна.

Па плану рэдакцыі прадбачылася правядзенне ў сельсоветах **злётаў і палітдзён сельксра.** Пачалі практычна ажыццяўляць гэта мерапрыемства. У Бабініцкі сельсовет накіроўваецца інструктар газеты тав. Казлоў. Яго як належыць не праінструктавалі. Тав. Казлоў выехаў у калгас «Праўда» і, не правёўшы ніякай падрыхтоўкі, пачаў чакаць яўкі селькораў на злёт. Селькоры, многія з якіх нават не ведалі аб гэтым мерапрыемстве рэдакцыі, не з'явіліся. І тав. Казлоў вымушан быў абмежавацца нарадай рэдкалегіі калгаснай насценгазеты, на якой абмеркавалі адозву III усебеларускага з'езда рабселькораў.

Палітдзень селькораў Нацкага сельсовета праводзіў намеснік адказнага рэдактара тав. Адась. На злёце прапрацавалі адозву III усебеларускага з'езда рабселькораў, правялі гутарку аб выпуску і афармленні насценных газет. Але і тут на злёце прысутнічала толькі... 20 чалавек.

Трэцяе мерапрыемства, якое праводзіла газета,—злёт конюхаў Бабініцкага сельсовета. На жаль, і гэта ініцыятыўнае мерапрыемства было праведзена без шырокага ўдзелу мас і не стала агульнавядомым для калгаснікаў усяго раёна.

— Тав. Казлоў змазаў гэты злёт,— прызнаюцца рэдактар газеты тав. Шэўчэнка і яго намеснік тав. Адась.

Значна лепш удалося рэдакцыі чацвертае мерапрыемства—**вечар сейбітаў** калгаса імя Мялешкі, Бабініцкага сельсовета. Для правядзення гэтага вечара ў калгас выехалі два работнікі рэдакцыі: тав. Бураў і тав. Казлоў, выехаў фатограф, які арганізаваў фотаздымкі лепшых сейбітаў і інструктароў для раённай дошкі гонару. Правядзеннем гэтага

вечара рэдакцыя мела на ўвазе дапамагчы калгасам раёна ў выяўленні лепшых сейбітаў і інспектароў па якасці, метады работы якіх можна было-б рэкамендаваць усім калгасьнікам раёна.

Для падрыхтоўкі вечара работнікі рэдакцыі выехалі ў калгас за чатыры дні наперад і правялі адпаведную работу ў брыгадах. На вечары прысутнічала 35 чалавек, сярод іх 20 сейбітаў і інспектароў па якасці. Стары сейбіт калгаса тав. Рыгор Муравей выступіў са сваімі прапановамі аб паляпшэнні якасці сяўбы ільну. Ён расказаў аб сваім вопыце сяўбы трыма пальцамі, спыніўся на значэнні правільнага ляшэння поля. Аб вопыце Мураўя Рыгора потым расказала раённая газета, змясціўшы яго выступленне на вечары. І вось паказальна: ў нізавым друку калгаса імя Мялешкі і асабліва ў брыгадных насценгазетах аб гэтым выступленні лепшага сейбіта калгаса не напісалі ні слова. А хто-ж, як не нізавы друк абавязан быў папулярызаваць гэты выдатны ў калгасе вечар сейбітаў і інспектароў якасці. Ужо ў гэтым невялічкім, але яркім факце сказалася недастатковая аператыўнасць выязджаўшых на месца работнікаў, якія абавязаны былі мабілізаваць на правядзенне такога важнага мерапрыемства ўсю грамадскасць, усіх селькораў, увесь нізавы друк калгаса.

**«Вучыцца працаваць у комуніста Локшына»**—пад такім загалоўкам быў змешчан у № 17 раённай газеты матэрыял аб рабоце комуніста—старшыні сельсовета. Але, **к** вялікаму жалю і тут не абышлося без промаху. Намеснік адказнага рэдактара тав. Адась, які арганізоўваў гэты матэрыял, аднёсся да справы павярхоўна, ён не дагледзеў істотных недахопаў у рабоце тав. Локшына, якія урэшце, давялі сельсовет да чорнай дошкі. І ў выніку ў № 20 газета вымушана даваць чытачам растлумачэнне «Аб памылках нашай газеты».

У тэматычным плане рэдакцыя «Сталінца» прадбачыла правядзенне рэйдуправеркі работы дзіцячых яслей. Гэта мерапрыемства рэдакцыя правяла. Зараз практычна ажыццяўляюцца ўказанні рэйду адносна паляпшэння догляду дзяцей. Але зноў-жа, раз выступіўшы па пытанню ясляў, газета больш не варочаецца да іх.

6 красавіка Ветрынская раённая газета распачала **паход за асваенне калгаснікамі мастацкай літаратуры.** Надрукаваўшы заметку аб значэнні паходу і змясціўшы спіс буйнейшых твораў нашых совецкіх пісьменнікаў, якія райштаб прапанаваў прачытаць кожнаму калгасніку, газета заклікала сваіх чытачоў уключыцца ў гэты паход. У чарговым нумары была надрукавана невялічкая рэцэнзія на аповесць Міхася Лынькова «На чырвоных лядах». І на гэтым літаратурны паход скончыўся.

У канцы красавіка рэдакцыя паведаміла сваіх чытачоў аб тым, што **згодна** пастановы РК КП(б)Б у раёне ствараецца **«Кніга гонару»,** у якую будуць заносіцца знатныя людзі раёна.

Рэдакцыя газеты абяцала:

> **«Пасля занясення ў кнігу гонару рэдакцыя газеты «Сталінец» будзе выязджаць на месца, фатаграфаваць занесеных, паказваць вопыт іх работы на старонках газеты».**

Праходзіць май, пачаўся чэрвень, і чытач у праве запытаць у рэдакцыі:

— Калі-ж, нарэшце, пачнецца паказ на старонках раённай газеты лепшых людзей раёна, дзе апісанне іх вопыту?

Ва ўсім гэтым, як заявілі ў гутарцы самі работнікі, «недавыкананні» намечаных раней мерапрыемстваў вінавата, безумоўна, сама рэдакцыя, яе метады работы. Пры наяўнасці чатырох работнікаў рэдакцыя магла зрабіць значна больш. Вазьміце, напрыклад, такія мерапрыемствы з таго-ж плана, як **нарада маладых членаў сельсоветаў,** упершыню выбраных, або **сустрэча двух спаборнічаючых сельсоветаў** ці, урэшце, **агляд фінансавай работы секцый** сельсоветаў.

Якое вялікае поле ініцыятывы адкрывалася тут перад рэдакцыяй пасля абвяшчэння ўсебеларускага конкурсу на лепшую работу сельскіх советаў. На аснове ўмоў гэтага конкурсу рэдакцыя магла выпрацаваць канкрэтную і зусім ажыццявімую праграму работы для выканання сваіх-жа мерапрыемстваў.

І тут зноў такі выяўляецца няўменне, а іншы раз і проста нежаданне давесці да канца сваю-ж ініцыятыву.

Істотныя недахопы былі і ў самім плане масавых мерапрыемстваў газеты. **План не быў канкрэтызаваны,** ён прадугледжваў аж 24 мерапрыемствы. **Хто,**

**калі, якімі сродкамі і ў якой форме праводзіць данае мерапрыемства** — у плане не гаварылася. К прыкладу прывядзем некалькі пунктаў з гэтага плана:

**«III. Злёт конюхаў Бабыніцкага сельсовета.**

**XIV. Праверка дагавору двух спаборнічаючых сельсоветаў.**

**XV. Праца фінансавых секцый трох сельсоветаў.**

**XVI. Сустрэча двух жывёлагадоўчых брыгад (абмен вопытам).**

**XVII. Нарада па ільну ўдарніц калгаса імя Молатава, Нацкага сельсовета (дагляд ільну)».**

Што можа даць такі, з дазволу сказаць, «канкрэтызаваны» план? Ён міжвольна ператвараецца ў план агульных меркаванняў газеты.

За апошнія два тыдні і асабліва пасля нашай праверкі практычнага выканання плана рэдакцыі заўважваецца лэўны зрух у рабоце «Сталінца». 2 чэрвеня газета змясціла на ўсю першую старонку **«Рабочы план брыгады тав. Заблоцкага».** Гэты план адной з перадавых брыгад Шпакоўшчынскага сельсовета, Ветрынскага раёна, быў загадзя абмяркован ў брыгадзе, потым ва ўсім калгасе і, урэшце, на раённым злёце калгаснікаў-ударнікаў, дзе прысутнічала звыш 250 чалавек. План прадугледжвае асноўныя работы калгаснай брыгады на бліжэйшыя 2-3 месяцы. Праполка, падрыхтоўка кармовай базы, падрыхтоўка да ўборкі ільну і зернавых і своечасовага выканання абавязацельстваў перад дзяржавай — усе гэтыя важнейшыя этапы сельскагаспадарчых работ і падрыхтоўка да іх ілюструюцца на канкрэтных прыкладах перадавой брыгады тав. Заблоцкага.

5 чэрвеня рэдакцыя арганізавала **сустрэчу двух партыйных арганізатараў.** Гэта ініцыятыўнае пачынанне газеты прадугледжвалася вядомым ужо нам планам рэдакцыі. Мэта сустрэчы: глыбей увайсці ва ўсе дэталі рознастайнай работы партыйнага арганізатра, выявіць крупінкі лепшага вопыту яго работы і расказаць аб іх на старонках раённай газеты. І вось 7 чэрвеня на старонках газеты «Сталінец» выступае парторг калгаса **«Труд»** тав. **Галаўнёў.** Ён расказаў не толькі аб сваёй палітычна-масавай рабоце ў калгасе. Рэдакцыя раённай газеты цікавілася і што чытае тав. Галаўнёў, і як ён выхоўвае сваіх дзяцей, і, урэшце, як адносіцца да сям'і, да жонкі. У чарговым нумары за 10 чэрвеня газета змясціла адказную слова гутарыўшага з Галаўнёвым тав. **Жыгунова.** Ён шмат чым дапоўніў тав. Галаўнёва, бо яму «давядзіцца мець справу з людзьмі ўсяго сельсовета».

У тым-жа нумары за 9 чэрвеня газета пачала **завочную вытворчую нараду па жывёлагадоўлі.** Шкада толькі, што матэрыялы гэтай завочнай нарады нічым не спалучаюцца з праводзімым усебеларускім конкурсам на лепшую работу сельскіх советаў. А ў гэтым конкурсе, ва ўмовах яго правядзення, ёсць рад канкрэтных указанняў работнікам сельсоветаў па разгортванню жывёлагадоўлі і стварэнню кармовай базы.

Праверка якасці ажыццяўлення мерапрыемстваў ветрынскай газеты «Сталінец» паказала, як неабходна яшчэ карэнным чынам **паляпшаць якасць усёй масавай работы рэдакцыі раённай газеты.** І галоўнае — **даводзіць да канца ўзнятыя пытанні,** ствараць вакол іх грамадскую думку, ажыццяўляць мерапрыемствы, вызначаныя самой рэдакцыяй, яе планам работы.



Намеснік адказнага рэдактара ветрынскай раённай газеты тав. Адась прапрацоўвае з селькорамі план уборачных работ перадавой брыгады Заблоцкага.

„ГУТАРКА ІДЗЕ АБ СУР'ЁЗНЫМ
У МАЦАВАННІ ГАЗЕТНЫХ КАДРАЎ"
(ПРАВДА)

# ЗАБЫТЫ ЎЧАСТАК РАБОТЫ

(Да вынікаў нарады рэдактароў фабрычна-заводскіх газет Гомеля)

5 чэрвеня нашым журналам і гомельскім гаркомам КП(б)Б была праведзена нарада рэдактароў фабрычна-заводскіх газет Гомеля.

На абгаварэнне нарады было пастаўлена адно пытанне: аб выхаванні і вырошчванні кадраў работнікаў фабрычна-заводскага друку.

Што паказала нарада?

Пачнем з вучобы рэдактараў фабрычна-заводскіх шматтыражак. Большасць рэдактароў зусім маладыя газетныя работнікі, не маюць спецыяльнай падрыхтоўкі. Значыць, арганізацыя сур'ёзнай вучобы гэтых рэдактароў — задача вельмі важная.

У календарным плане работы гомельскага дома партактыва прадугледжаны тры дні для заняткаў семінара рэдактароў фабрычна-заводскіх газет.

Але работа гэтага семінара зрываецца. Большасць рэдактароў не наведваюць заняткаў і ні кіраўнікі дома партактыва, ні гарком КП(б)Б не зацікавіліся прычынамі гэтага.

На нарадзе прычыны сталі яснымі.

Рэдактары шматтыражак перагружаны іншай партыйнай работай. Як правіла, рэдактары газет з'яўляюцца прапагандыстамі парткомаў. Як прапагандыстам, ім неабходна 6—9 раз у месяц праводзіць заняткі, 3 разы ў месяц наведваць семінар прапагандыстаў (за ненаведванне семінара прапагандыст прыцягваецца да партыйнай адказнасці). Паміма гэтага прапагандыстаў збіраюць яшчэ на нарады пры гаркоме. У выніку 12—14 дзён у месяц рэдактары заняты. Куды ад гэтага работа газетнага семінара, спецыяльная вучоба рэдактара.

Але не толькі ў перагрузцы справа. Справа і ў змесце работы семінара.

Тав. **Міхлін** — рэдактар газеты «Пралетарый» імя Кірава — так адзываецца аб занятках семінара, на якіх ён раз быў. «Семінар нас не здавальняе, вельмі сумна і непрактычна праводзяцца заняткі».

Гэта аб семінары.

Возьмем другі від вучобы рэдактара — нарады рэдактароў па канкрэтных пытаннях работы газеты.

Нельга сказаць, што такія нарады ў Гомелі не праводзяцца. Праводзяцца. Але,

«На склікаемых нарадах толькі і гавораць, аб тым, што ты робіш, як справы. Гэта безумоўна трэба, але-ж трэба на нарадзе навучыць рэдактароў, што і як рабіць, як асвятляць тое, ці іншае пытанне. А гэтага і няма на нарадах».

Так адзываюцца рэдактары аб нарадах.

Пяройдзем да пытання арганізацыі вучобы, выхавання і вырошчвання работнікаў цэхавага і брыгаднага друку і рабкораў.

Гэта работа нядрэнна пастаўлена на камбінаце імя т. **Гікало.**

Тав. **Каламіец** — рэдактар шматтыражкі камбіната — на нарадзе падзяліўся вопытам сваёй работы. Шматтыражка вырасціла некалькі здольных газетных работнікаў. Вось тав. **Генін** — былы актыўны рабкор — працуе зараз рэдактарам шматтыражкі на шклозаводзе. Тав. **Хайкін**—рабкор—зараз працуе намеснікам рэдактара камбінацкай шматтыражкі. Рэдактар насценгазеты тав. **Шульніна** — можа быць вылучана на работу ў шматтыражку. Гэта канкрэтныя вынікі работы рэдакцыі.

Асноўным метадам выхавання рэдактароў нізавых газет з'яўляюцца асабістыя гутаркі і канкрэтныя ўказанні ў рабоце.

— «Я кожны дзень хаджу па цэхах, уважліва прачытваю насценныя газеты, — расказвае т. Каламіец. — Гавару з кожным рэдактарам, указваю на недахопы газеты, указваю, як трэба пісаць і афармляць газету. У шматты-

ражцы змяшчаем агляды нізавых газет»:

На камбінаце быў арганізован семінар рэдактароў, але работа яго зрывалася. Зараз шматтыражка арганізавала два семінары ў буйнейшых цэхах і абслугоўвае іх сваімі сіламі. Асноўны змест заняткаў — практычная работа па рэдагаванню і афармленню насценгазеты. Нядаўна на партсходах заслухоўваліся справаздачы рэдактароў газет, значна палепшылася парткіраўніцтва нізавым друкам.

Тав. **Тюфаеў** — рэдактар газеты завода імя Ланцуцкага — на нарадзе заявіў:

«У нас выходзіць 18 насценгазет. На працягу 3 месяцаў працаваў семінар рэдактароў на 25 чалавек. Пасля семінара мы маем ажыўленне работы насценгазет.

Зараз думаем арганізаваць семінар яшчэ на 25 чал. Праводзілі канферэнцыю чытачоў, выявілі многа недахопаў у рабоце, зараз працуем над іх знішчэннем».

Зусім інакш абстаіць справа на фабрыцы «Везувій». Вялікая цякучасць рэдактароў насценгазет. У аўтаматным цэху за 2 месяцы змяніліся 3 рэдактары, а зараз у цэху рэдактара зусім няма.

Многія рэдактары амаль няграматныя. Некалькі раз прабавалі сабраць семінар работнікаў нізавых газет, але усё безрэзультатна.

Ніхто на фабрыцы не займаецца выхаваннем кадраў для нізавых газет. Гэту справу ўсклалі выключна на шматтыражку. Такое-ж становішча і на іншых прадпрыемствах.

Аб гэтым гаварылі на нарадзе і тав. **Калінін** — рэдактар брыгаднай газеты завода імя Ланцуцкага, і тав. **Яхновіч** (фабрыка «Працы»), і тав. **Міхлін** (завод «Пролетарый») і інш.

Справу падрыхтоўкі газетных работнікаў партарганізацыі раду прадпрыемстваў Гомеля зусім знялі з сябе. Задачу вырошчвання кадраў для нізавога друку яны ўсклалі толькі на свае шматтыражкі.

Яшчэ горш з работай па выхаванню рабкораў. Лепшым сведкай работы з рабкорамі, росту рабкораў з'яўляюцца паказальнікі іх удзелу ў выпуску газеты.

Ні адзін рэдактар шматтыражкі на нарадзе не мог назваць прозвішча рабкора, які-б сістэматычна даваў у рэдакцыю сур'ёзныя артыкулы, фельетоны, нарысы. Не вырасціў яшчэ такіх кадраў гомельскі фабрычна-заводскі друк.

І партарганізацыі, і шматтыражкі дрэнна працуюць з рабкорамі, дрэнна вучаць іх. Вельмі рэдкі выпадкі, калі рабкору даюцца ўказанні аб тым, як пісаць, чым яго заметка дрэнная або добрая. Гэта значыць, не вучаць рабкораў на канкрэтных прыкладах, як трэба працаваць над матэрыялам.

***

Нарада рэдактароў фабрычна-заводскіх газет Гомеля паказала, што лозунг «Кадры вырашаюць усё» ў прымяненні да выхавання і вырошчвання кадраў фабрычна-заводскага друку не знайшоў яшчэ практычнага праламлення ў Гомелі. Гомельскі гарком КП(б)Б і яго газета **«Палеская правда»** не ўзяліся яшчэ за гэту важнейшую і сур'ёзную работу.

# Рэдактар здае справы

*** * * Я. ЭСТЭРКІН * * ***

У кутку маленькага пакоя агульнай канцылярыі кіраўніцтва «Палесдрук» стаіць невялічкі столік.

У пакоі шумна — размовы бухгалтароў, стук машынак і шуршанне папер.

— Ці не ведаеце, дзе знаходзіцца рэдакцыя газеты **«Ратацыя»**—пытаюся я.

— А вось, — паказвае адзін з бухгалтароў на маленькі столік, які стаіць у кутку.

Але за сталом нікога няма. Чакаю.

Праз мінут 15 у пакой уваходзяць два чалавекі. У аднаго ў руках маленькі сшытак, у другога скрутак чыстай паперы. Адзін з іх т. **Рабіновіч** — былы рэдактар «Ратацыі»—здае справы, дру-

гі — т. **Пераллётчык,** нова-назначаны рэдактар прымае іх.

— Мы — гаворыць тав. Рабіновіч — абменьваемся пасадамі. Я буду працаваць прапагандыстам, а тав. Нераплётчык — прапагандыст парткома — рэдактарам. Так рашыў партком. Між іншым, гэта недарэчнасць—пасля невялікай паўзы дадае тав. Рабіновіч. —Толькі тры месяцы працую рэдактарам, толькі, як кажуць, пачаў увахо-дзіць у курс сваёй работы, а тут, на табе, мяняюць.

Нова-назначаны рэдактар тав. **Пераплётчык** таксама выказвае сваё незадавальненне. «За год майго вылучэння я ўжо на пятай рабоце. Працаваў у фабкоме, прапагандыстам, статыстыкам, і т. д. У апошні час скончыў прапагандысцкія курсы пры гаркоме партыі, але займаючы дзве пасады — прапагандыста і работніка фабкома, — я не справіўся з работай. Партком рашыў зрабіць мяне рэдактарам».

Прыведзеная сцэнка вельмі характэрна, як прыклад адносін партарганізацыі «Палесдрука» да сваёй шматтыражкі.

Газета — гэта другарадная справа, рэдактарам можа працаваць чалавек, які не спраўляецца з іншай работай.—так відаць, лічаць у парткоме. Вось чаму рэдактары «Ратацыі» так часта мяняюцца. Быў Драпкін—змянілі на Рабіновіча быў Рабіновіч—змянілі на Пераплётчыка. І ўсё гэта за поўгода. Людзі не паспяваюць увайсці ў курс справы, як іх перакідваюць на іншую работу.

Нічога агульнага не мае такая практыка парткома «Палесдрук» з задачай сур'ёзнага ўмацавання кадраў газетных работнікаў.

Частая змена рэдактароў шматтыражкі не магла не адбіцца на рабоце цэхавых і брыгадных газет, на выхаванні і выроштванні работнікаў нізавога друку.

На прадпрыемстве выходзіць 28 насценгазет: 5 агульнацэхавых, 23 брыгадныя штодзёнкі, трохдзёнкі і пяцідзёнкі. Аб колькасці штодзёнак у рэдакцыі дэтальна не ведаюць. Лічаць, што іх ёсць толькі 3—4. Цэхавыя газеты выходзяць у большасці раз у месяц, у лепшым выпадку два разы ў месяц.

Як працуе рэдакцыя шматтыражкі з рэдкалегіямі нізавых газет і рабкорамі?

За апошнія тры месяцы рэдакцыя «Ратацыі» правяла тры злёты рабкораў і членаў рэдкалегій насценгазет. Гэтыя злёты прысвячаліся той ці іншай праваадзічай кампаніі. Склікалі два разы рэдактароў насценгазет і таксама па агульных пытаннях работы прадпрыемства. Гэтыя агульныя злёты і нарады амаль нічога не далі для паляпшэння работы газет. Актыўнасць рабкораў ад праведзеных злётаў не павялічылася: на працягу мая ў «Ратацыю» паступіла толькі каля 40-45 рабочых карэспандэнцый. Дэтальнага ўліку паступіўшых заметак няма. Рабкораў у «Палесдруку», па словах тав. Рабіновіча, налічваецца каля 120. Але калі параўнаць лік рабкораў з лікам паступаючых заметак, то лічба 120 рабкораў становіцца крыху пад сумненне.

Ніякай вучобы рэдактароў нізавых газет шматтыражка не арганізавала. Ніхто не цікавіцца і тым, як займаюцца работнікі цэхавых і брыгадных газет у партыйных, комсамольскіх школах.

На слабае кіраўніцтва нізавымі газетамі, на дрэннае рэагаванне на змяшчаемыя матэрыялы, адсутнасць клапатлівых адносін да работнікаў газет, адсутнасць усялякай вучобы рэдактароў скардзяцца амаль усе рэдактары цэхавых і брыгадных газет, як тт. **Гулькіна, Заўбер, Лейбін, Мадкоўскі** і інш.

Былы рэдактар «Ратацыі» тав. Рабіновіч здае справы. Нова-назначаны рэдактар тав. Пераплётчык прымае іх. Што будзе напісана ў перадатачным акце—невядома. Толькі крэсла і невялічкі столік, што стаіць у шумнай агульнай канцэлярыі кіраўніцтва «Палесдруку»— больш амаль што і няма чаго здаваць т. Рабіновічу.

**Гомель, 6 чэрвеня 1935 г.**

СЯМЁН КУЦАЕЎ—інструктар газеты «СТАЛІНСКІ ПРЫЗЫЎ» (Касцюковічы).

# І ВОСЬ Я ІНСТРУКТАР РАЁННАЙ ГАЗЕТЫ



Маладым хлапчуком я пачаў пісаць у газеты. Будучы яшчэ на школьнай лаўцы прымаў удзел у насценгазеце нашага калгаса «Новы быт», пісаў у раённую газету «Сталінскі прызыў».

Крыху пазней калгаснікі выбралі мяне рэдактарам нашай насценгазеты. Пры маім рэдагаванні вышла больш 200 нумароў. Так што вопыт практычнай работы рэдкалегіі калгаснай насценгазеты ў мяне даволі багаты.

Такім я прышоў у рэдакцыю «Сталінскага прызыву». Узялі мяне на работу ў якасці інструктара нізавога друку і рабселькораў. На гэтай рабоце знаходжуся і зараз.

Не скажу, што работнікі рэдакцыі сустрэлі мяне дрэнна. Наадварот, у першыя дні работы я адчуў, што мною цікавяцца, дапамагаюць мне, вучаць мяне.

Памятаю выпадак з маёй першай заметкай, напісанай ужо ў сценах рэдакцыі. Здаў я заметку сакратару рэдакцыі т. Асмалоўскаму. У заметцы былі недахопы. Тав. Асмалоўскі ўважліва прачытаў маю заметку, паправіў асобныя месцы, потым доўга са мной гутарыў аб недахопах заметкі, вучыў, як трэба пісаць, каб заметка была вострая, палітычна-правільная і разам з тым жывая, цікавая.

Такія таварыскія адносіны работнікаў рэдакцыі падбадзёрылі мяне, і я ахвотна ўзяўся за работу.

Мінаюць дні... Усё больш і больш растуць запатрабаванні працоўных, а адсюль растуць і ўскладняюцца задачы раённай газеты. Ва ўвесь рост паўстала задача—з дня ў дзень паляпшаць работу, рабіць такую газету, якая-б поўнасцю адлюстроўвала цудоўнае жыццё нашай краіны, жыццё нашага раёна.

І тут я адчуў, што адстаю ад жыцця, што жыццё ідзе хутчэй за мяне, абганяе мяне. Чаму так атрымалася? Таму, што сістэматычнай вучобы ў нашай рэдакцыі няма.

У першыя дні маёй работы ў рэдакцыі мною цікавіліся, дапамагалі, вучылі пісаць заметкі. Потым парашылі, відаць, што я ўжо авалодаў вышынямі газетнай справы і пакінулі мяне ў спакоі.

І гэта вельмі дрэнна адбіваецца на мне. Я не расту, як газетчык, як масавік.

Выходзяць нумары газеты адзін за адным. Рэдактар ніколі не збярэ работнікаў рэдакцыі для таго, каб абмеркаваць вышаўшы нумар, раскрытыкаваць яго недахопы, недахопы заметак асобных работнікаў.

Няма ў рэдакцыі ні аднаго гуртка. Ніхто не клапоціцца аб набыцці для работнікаў хоць-бы самых неабходных нам кніг, арганізаваць бібліятэку.

Я, як інструктар па нізавому друку і рабоце з рабселькорамі, павінен вучыць рэдкалегію, як выпускаць насценгазету, вучыць селькораў пісаць заметкі, указваць ім на недахопы мовы, стылю. А як я магу гэта рабіць, калі я сам не вучуся, сам яшчэ дрэнна ўладаю жывой газетнай мовай?

Пытанне аб глыбокай сістэматычнай вучобе інструктара трэба паставіць у парадак дня работы кожнай рэдакцыі.

Яшчэ некалькі слоў аб сваёй рабоце. Наш раён—вялікі. Часта прыходзіцца бываць у калгасах, якія знаходзяцца ў 15—20 кілометрах ад раённага цэнтра. Рэдактар ведае толькі адно: даць заданне выехаць у такі і такі калгас, а як у калгас дабрацца—гэтым ніхто не цікавіцца.

Часцей за ўсё прыходзіцца браць палку ў рукі і ісці пяхотой па 15—20 кілометраў у дзень. Гэта адбіваецца і на рабоце і на апаратыўнасці ў выкананні заданняў.

Мая прапанова: рэдакцыі павінны набыць хоць-бы па аднаму веласіпеду для выезду інструктараў на раён. Пару соцэнь рублёў можна выкраіць з бюджэта любой рэдакцыі, а карысць веласіпеда для рэдакцыі наўрад ці трэба даказваць.

**Я. ДАЙНЯК** — інструктар Асіпавіцкай раённай газеты.

# ПЕРАБУДАВАЦЬ РАБОТУ ІНСТРУКТАРА



Працую на пасадзе інструктара ўсяго месяц. За гэты час пабываў у чатырох сельсаветах, азнаёміўся з работай насцензагет у 12 калгасах. Амаль ва ўсіх калгасах склікаў членаў рэдкалегіі, праводзіў з імі нарады, расказваў аб задачах друку. Там, дзе слабая рэдкалегія, дапамагаю выпускаць насцензагету.

Але мне хацелася-б адзначыць вось што. Мне здаецца, што не толькі я, але і многія іншыя інструктары масавую работу з рабселькорамі праводзяць наогул, неканкрэтна. Нядаўна я прачытаў у журнале «Большевистская печать» артыкул т. **Гарэліка** аб вырошчванні рабселькораў. Правільна там сказана, што так працаваць, як дагэтуль мы працавалі, нельга. Мы не ўвязваем сваёй работы непасрэдна з задачамі паляпшэння якасці выпускаемай газеты, з газетнай паласой. Я ўпэўнен, што калі запытаць кожнага інструктара, колькі ён выхаваў селькораў-аўтараў, селькораў, якія-б пісалі нарысы, фельетоны, то адказ атрымаецца адмоўны.

Адгэтуль і наша задача—задача інструктароў раённых газет,—арганізаваўшы шырокую масавую работу з рабселькорамі, увязаць гэту работу з паляпшэннем работы і насцензагет і раённай газеты, вырошчваць з рабселькораў сур'ёзных аўтараў. У нас ёсць некалькі здольных рабселькораў. Не аслабляючы масавай работы, я буду праводзіць з імі індывідуальную работу.

Я лічу, што рэдакцыя павінна мець план масавай работы з рабселькорамі. А ў нас у рэдакцыі такога плана няма. Вось і працуеш усляпую. Прапануе т. **Скежын** (рэдактар) паехаць, скажам, у Ліпеньскі сельсовет. Ну, і едзеш, а на месцы што хочаш, тое і рабі.

І потым—аб вучобе інструктароў. Трэба набыць для іх літаратуру, бо ў нашай рэдакцыі ні адной брашуры няма па пытаннях работы інструктара.

Яшчэ адно пытанне мне хацелася-б адзначыць. Інструктар павінен мець зону сваёй работы. Я, напрыклад, не прымацаван да пэўнай групы сельсаветаў, а працую па сельсаветах усяго раёна. Таму часта і распыляюся. А куды-б лепш было, калі-б сканцэнтраваць работу ў пэўных сельсаветах, а потым вопыт наладжанай работы перанесці ва ўсе сельсоветы раёна.

# МЯНЕ НЕВУЧАЦЬ У РЭДАКЦЫІ

Яшчэ ў снежні мінулага года мяне, як лепшага селькора, узялі на работу ў рэдакцыю газеты **«Калгасная праўда»**. Аж да 5 красавіка 1935 года я працаваў тэхнічным сакратаром рэдакцыі.

За час маёй работы ў рэдакцыі я ніколькі не павысіў сваіх ведаў. Мне далі непасільную нагрузку: весці ўлік селькораў, улік пісем, атрымліваемых рэдакцыяй, пасылаць на расследванне выразкі з газеты і неапублікаваныя пісьмы (дарэчы, кожнае неапублікаванае пісьмо трэба было перапісаць ад рукі), весці ўлік паступаючых ад установ адказаў на дасланыя карэспандэнцыі, падшываць газетныя архівы.

Выконваючы такую работу, я не толькі не меў магчымасці дзе-небудзь вучыцца, а нават зусім мала прыходзілася ўдзяляць часу чытанню газет. Журналаў я зусім не чытаў. Работнікі рэдакцыі не цікавяцца мною, не вучаць мяне.

7 красавіка мяне паслалі на двухмесячныя курсы інструктароў-масавікоў раённых газет пры КІЖ БССР імя Кірава.

На курсах я многаму навучыўся, пра многае даведаўся, у прыватнасці даведаўся, як рэдакцыі газет павінны выхоўваць рабселькораў. Цяпер еду назад у Лепель у рэдакцыю «Калгаснай праўды».

Няўжо і цяпер рэдакцыя «Калгаснай праўды» не зменіць сваіх адносін да мяне, да вылучэнца-селькора?

**А. ПАЛОНСКІ.**

## АБМЯРКОУВАЕМ ПЫТАННЕ АБ ПАДБОРЦЫ Ў ГАЗЕЦЕ

* * *

# НАША ДУМКА АБ ПАДБОРЦЫ

Пастаноўка пытання аб падборцы ў парадку дыскусіі зусім своечасовая і неабходная справа. Трэба сказаць, што да гэтага часу існавалі дзве крайнасці. Адны з нашых газетных работнікаў прытрымліваліся таго, каб увесь матэрыял, які паступае ў рэдакцыю, падаваць у выглядзе падборак па розных пытаннях, другія ўпадалі ў процілеглую крайнасць—падавалі допісы і артыкулы рабселькораў неарганізавана, у парадку паступлення іх у рэдакцыю.

Трэба прызнаць, што і адна і другая практыка з'яўляюцца шкоднымі. Крайнасцей тут быць не павінна. У гэтай справе лепшым прыкладам і лепшым падручнікам з'яўляецца ЦО партыі **«Праўда»**.

«Праўда» рэдка калі дае паласы і падборкі, але ні ад палас, ні ад падборак не адмовілася. На гэты шлях стаў і наш рэдакцыйны калектыў.

Вось некалькі прыкладаў з практыкі нашай работы.

Зараз мы сістэматычна з дня ў дзень асвятляем ход падрыхтоўкі да ўсенароднага свята Совецкай Беларусі, узялі пад свой кантроль работу Асінторфа і штодзенна змяшчаем матэрыялы аб яго рабоце. Рэгулярна асвятляем ход конкурсу на лепшы культурны сельсовет. У сваёй большасці гэтыя матэрыялы ў нас ідуць у выглядзе падборак.

Але ўсе матэрыялы, якія ідуць у нумар, у падборкі не «ўгоніш». Для таго, каб падрыхтаваць падборку па якому-небудзь пытанню, трэба прыкладна дватры дні. Скажам, сёння па гэтаму пытанню прышло адно пісьмо, заўтра другое, праходзяць два-тры дні і ў рэдакцыйным партфелі збіраецца 3—5 заметак па аднаму і таму-ж пытанню. Але не заўсёды трэба чакаць, пакуль збярэцца падборка. У рэдакцыю паступаюць пісьмы, якія не церпяць ніякага адтэрмінавання ў іх надрукаванні. Такія пісьмы, не чакаючы пакуль збярэцца падборка, мы зараз-жа скарыстоўваем.

Вось паступіла да нас заметка, што кіраўніцтва калгаса «Чырвоная перамога», Шыбецкага сельсовета, груба парушае сталінскі статут, што ў гэтым калгасе прысядзібную зямлю дзялілі па едаках.

Устрымліваецца ад змяшчэння гэтага допіса, чакаць, пакуль па гэту тэму паступяць яшчэ матэрыялы і потым выступіць в падборкай—злачынна. Інтарэсы справы патрабуюць змясціць гэту заметку неадкладна. Мы так і зрабілі. Змясцілі гэты допіс на відным месцы. Справай заняўся райвыканком, была вынесена спецыяльная пастанова, і гэты допіс, хоць ён быў падан без падборкі, адыграў выключную ролю.

Або вось яшчэ прыклад. Рабкор канатна-вяровачнай арцелі «Дняпро» сігналізаваў нам, што на іх прадпрыемстве няма ніякай супроцьпажарнай аховы. Галоўны пад'езд загружан паклям і кастрыцай. Электрычная праводка ад пылу ніколі не ачышчалася. Былі выпадкі ўспышак матораў.

Мы ў дзень атрымання гэтага пісьма пазнаёміліся з супроцьпажарнай аховай на другіх прадпрыемствах—аналагічны малюнак быў і там. Не чакаючы другіх падобных матэрыялаў, мы падалі толькі два допісы па пытанню супроцьпажарнай аховы—аб арцелі «Дняпро» і аб мясакамбінаце. Да іх напісалі кароценькую перадоўку, і гэтыя матэрыялы з'явіліся сігналам для ўсіх прадпрыемстваў.

Але ў пэўных выпадках ёсць неабходнасць падаць матэрыялы не толькі падборкай, але і паласой, і нават разваротам. Вось мы нядаўна далі разварот па жывёлагадоўлі. Ён для нас быў неабходнасцю. Адзін з дваццаці пяці сельсоветаў раёна—Сялецкі сельсовет—у конкурсе за развіццё жывёлагадоўлі вышаў пераможцам і заваяваў чырвоны пераходны сцяг РК і РВК. Трэба было перадаць вопыт ударнікаў гэтага сельсовета ўсяму раёну. Трэба было пака-

заць і конегадоўлю і догляд маладняка рагатай жывёлы, і свінагадоўлю, і птушкагадоўлю і падрыхтоўку кармовай базы. Вядома, столькі пытанняў, як кароткаіх ні падавай, патрабуюць многа месца—трэба даць разварот.

Такім чынам мы прышлі да заключэння: падборка, паласа, разварот у пэўных выпадках—рэчы неабходныя, але няма нічога дрэннага, нават карысна, больш важныя матэрыялы даваць асобна, не чакаючы пакуль збярэцца некалькі аналагічных матэрыялаў. Але і ў такім выпадку патрэбна «ўмяшанне» рэдакцыі. Калі-ні-калі да такога важнага матэрыялу можна даць кароценькую, але вострую перадовачку, або каментарыі ад рэдакцыі.

Значыць, у гэтым пытанні крайнасцей быць не можа. Падборка патрэбна, і мы этага прытрымліваемся. У апошні час у нас у нумары падаецца не больш 2—3 невялікіх падборак, а большасць допісаў друкуем самастойна. Гэта газету зрабіла аператыўнай і больш цікавай.

**Работнікі рэдакцыі газеты «Ленінскі прызыў»: КАВАЛЕВІЧ, ЗАЙЦАЎ, ШЭВЕРАЎ, ВНУКАЎ, БУГАЁЎ, ГЛЕЗЕР.**

**Орша, БССР.**

# ЯКОЙ-ЖА ПАВІННА БЫЦЬ ГАЗЕТНАЯ ПАЛАСА

**1.**

Ітак, пытанне аб месцы падборкі ў газеце вельмі своечасова ўзнята «Большэвіцкім друкам». Работнікі раённага друку жыва адгукнуліся на запрашэнне рэдакцыі выказацца аб лепшым скарыстанні «газетнай жылплошчы».

Выступленні т. т. **Фарберава** і **Мятлы** мала спрыяюць вырашэнню пытання ў пажаданым напрамку. Над імі яшчэ даўлее інерцыя, шаблон, «парадак».

Тав. Фарбераў, напрыклад, зводзіць пытанне да таго, што «ўся справа ў якасці падборкі». Выходзіць, калі толькі забяспечыць высокую якасць матэрыялу, то аб колькасці і аб'ёме падборак у нумары турбавацца зусім не прыходзіцца—можна лікам і пабольш. І толькі ў прадапошнім абзацы свайго артыкула тав. Фарбераў міласціва згаджаецца: «Падборкі, аднак, не павінны займаць усю плошчу газетнай старонкі»...

Бясспрэчна, з дня ў дзень трэба змагацца за высокую палітычную і літаратурную якасць матэрыялу. Але нельга, тав. Фарбераў, проціставіць падборку якасці матэрыялу, нельга к гэтаму зводзіць пытанне аб змесце, аб тэматыцы газеты. Наш асноўны чытач — рабочы і калгаснік казачна вырас, круг яго запатрабаванняў і інтарэсаў надзвычай расшырыўся. Вось што пішуць у рэдакцыю гарадской газеты **«Ленінскі шлях»** калгаснікі — чытачы газеты:

**«Больш друкуйце калгасных частушак і песень аб лепшых калгасніках, аб заможным калгасным жыцці».**

Дзе-ж вы, тав. Фарбераў, знойдзеце месца ў газеце для песень, частушак і дзесяткаў іншых тэм, калі да размеркавання газетнай плошчы падыходзіць толькі з пункту гледжання «ўся справа ў якасці падборкі»?

**2.**

І тав. Мятла не бачыць магчымасці зрабіць газету баявой, калі ў асноўным яна не будуецца на падборках. Без гэтага, па думцы аўтара, газета становіцца бюлетэнем. Тав. Мятла нават вызначыў колькі патрэбна падборак даць у нумар. Па 2—3 падборкі на ўнутраных паласах і па адной на першай і чацвертай паласах.

Ці правільна, як сцвярджае тав. Мятла, што пры абмежаванні колькасці падборак газета перастае быць баявой зброяй партыі і становіцца пазбаўленым якасці прапагандыста, агітатара і арганізатара «шэранькім бюлетэнем»? Ці правільна, што імянна падборкі ратуюць газету ад небяспекі ператварыцца ў бюлетэнь? І ці правільна, што без падборкі нельга паказаць, на што газета звярачае галоўную ўвагу, і што «ігра шрыфтоў» не можа дапамагчы лепшаму афармленню палос?

3. Успомнім багацейшы вопыт **«Праўды»**—яе аператыўныя, баявыя падборкі ўвосень мінулага года аб ходзе хлебанарыхтовак у Заходняй Сібіры і Чэлябінскай вобласці. Успомнім змястоўныя, вострыя падборкі партыйнага аддзела «Праўды». Нарэшце, успомнім, штодзенныя падборкі з арганізуючымі «шапкамі» ў сувязі з выдатным рухам за збор сродкаў на пабудову новых магутных паветраных караблёў, які разгарнуўся ў нашай краіне.

І так, не будзем, таварышы Мятла і Фарбераў, ламіцца ў адкрытыя дзверы —падборка патрэбна. Адвядзем ёй належнае месца ў газеце. Але трэба мець на ўвазе, што будуючы газету **толькі** на падборках, рэдакцыя тым самым звужвае сваю тэматыку, прывучае чытача да такога вываду, што не ў падборцы—матэрыял другарадны, не такі ўжо важны. Ці гэта ў інтарэсах газеты, ці гэта ў карысць матэрыялу, якому не пашчаслівіла быць уключаным у падборку?

Абмежаваць колькасць падборак, значыць ісці супроць штампу, значыць павысіць дзейснасць, аператыўнасць газеты, значыць пашырыць круг тэм газеты, значыць павышаць палітычны і культурны ўзровень нашага чытача-рабочага і калгасніка.

Правільнасць гэтага палажэння пацвярджае сваёй практычнай работай тав. Чаускі, які выступіў у № 9 «Большэвіцкага друку». Прапануючы практыкаваць камбінаваную падачу матэрыялу, ён прыводзіць рад цікавых фактаў, калі пісьмо селькора, змешчанае па-за падборкай, аказвалася не менш дзейсным чым падборка. Ясна, справа не ў падборцы, а ва ўменні, жаданні востра падаць матэрыял. У процівагу т. Мятле, які разумее аператыўнасць толькі ў падборцы т. Чаускі піша: «Падборка ў газеце патрэбна, але не ва ўшчэрб аператыўнасці ў рабоце, не ва ўшчэрб пашырэнню тэматыкі газеты».

Я раю газетным работнікам, якія цікавяцца гэтым пытаннем, прачытаць у журнале № 8—9 ЦК ВКП(б) **«Большевистская печать»** артыкул **А. Мішурыса.** Аўтар указвае, што «не трэба пераацэньваць, фетышызаваць падборку», што асноўная стаўка на падборку «заслужаная практыкай работы нашых газет, зусім няправільная, бо, у канчатковым выніку, яна зводзіцца к імкненню заганяць галоўны газетны матэрыял толькі ў рамкі падборкі» (стар. 72—73).

4. Праверым прапановы тт. Фарборава і Мятлы на практыцы работы газеты **«Рэчыцкая праўда».** Гэта нядрэнная газета. Аднак, калі прагледзіш нумар «Рэчыцкай праўды» ад 2 чэрвеня, то пераконваешся, што колькасць тэм тут вельмі абмежавана. Першая паласа, за выключэннем перадавога, адведзена пытанням праполкі. Уся другая паласа— сканчэнню сяўбы, трэцяя паласа—дзве заметкі аб партыйным жыцці, карэспандэнцыя «Палітдзень на заводзе «Інтэрнацыянал»' і перадрукоўка з «Праўды»

Такіх нумароў, як «Рэчыцкая праўда» ад 2 чэрвеня, на жаль, у нашых раёнах хоць адбаўляй. Адсюль і рэзкі недахват месца для пытанняў культуры, для асвятлення жыцця нашай вялікай радзімы, такой багатай выдатнымі справамі, для артыкулаў-палітаглядаў на міжнародныя тэмы, для фатаграфій, для інфармацыі аб жыцці раёна, для судовых адчотаў, здарэнняў і т. д.—для ўсяго таго, што цікавіць чытача і чаго патрабуе ён ад газеты.

Вось чаму мы ні ў якім разе не прапануем наогул адмовіцца ад усякіх падборак. Але скараціць іх колькасць у газеце безумоўна неабходна. **Я. ГАРТ.**

# Вопыт сябе апраўдаў

*** П. КАЛАМІЕЦ. ***
Рэдактар шматтыражкі «За большэвіцкія перамогі».

Удзел у экскурсіі рэдактараў фабрычна-заводскіх газет у Маскву і Ленінград, арганізаванай журналам «Большэвіцкі друк», быў адной з самых радасных падзей у маім жыцці. Бачыць нашу чырвоную сталіцу з яе першакласнымі заводамі, як аўтазавод імя т. **Сталіна**, завод «Шарыкападшыпнік» імя т. **Кагановіча** і інш. Быць у Вялікім дзяржаўным тэатры, або ў Ленінградзе—красе і гордасці нашай краіны. Хіба гэта не вялікая радасць?

Мы, экскурсанты, былі на прадпрыемствах, дзе працуюць 30-35 тысяч рабочых, вывучылі работу газет гэтых прадпрыемстваў. Вялікі вопыт атрымалі мы, і гэты вопыт пераносім зараз у сваю работу.

Раскажу, як я прымяніў вопыт барацьбы за якасць выпускаемай прадукцыі на буйнейшым у Саюзе заводзе варштатабудаўніцтва «Красный пролетарый» у Маскве. Па прыкладу газеты **«Красный пролетарый»** я рашыў праверыць якасць вырабляемых нашым камбінатам павозак.

Разам з тэхнічным дырэктарам і інжынерамі ідзем на пагрузачную пляцоўку. Выбіраем адну з павозак, якія сёння павінны быць адгружаны спажыўцам, і праводзім дэтальную тэхнічную праверку. На месцы складаем акт, указваем рад дэфектаў у павозцы. Якасць павозкі прызнаецца нездавальняючай. Давэлі сказаць, што гайкі мы адвінчвалі рукамі, павозкі пасля аліфоўкі пры зборцы забруджваліся.

Змясцілі гэты акт у шматтыражцы, далі да яго артыкул: «Пагоня за колькасцю, ці як кіраўнікі абознага цэха робяць злачынную справу».

Змясцілі гэты акт у шматтыражцы, це разбіла мірныя настроі цэха. Цэх гэты носіць імя вялікага Сталіна, усе рабочыя—выдатнікі, а вось прадукцыю выпускалі зусім невысокай якасці.

Сорамна стала ўсім зборшчыкам, калі ў чырвоны куток, дзе адбывалася вытворчая нарада цэха, укацілі сабраную павозку, якая фігуравала ў акце. Гэта павозка — сведка дрэннай работы цэха. Амаль кожны рабочы падыходзіў да павозкі і правяраў, як гэта ён дапусціў выпуск бракаванай прадукцыі. Актыўна прайшла нарада. Такой актыўнасці на вытворчых нарадах даўно не назіралася. І зразумела чаму: якасць зборкі павозкі датычыць кожнага рабочага.

Выступаючыя расказвалі аб прычынах браку: дрэннае кіраўніцтва майстра цэха, невысокая якасць інструменту і іншыя. Вінаваты і адносіны да работы асобных зборшчыкаў. У гэтым чыстасардэчна прызнаваліся самі рабочыя. Вось т. **Пяцюцоўскі**. Ён прама заявіў на нарадзе

— Іншы раз задумаешся і не завінціш адну-дзве гайкі...

Даем слова, што будзем працаваць лепш, апраўдаем назву сталінскага цэха.

Па рашэнню вытворчай нарады, зараз праводзіцца кляйменне ўсіх сабраных дэталей. Устаноўлена адзнака на кожную выпушчаную павозку: «выдатна», «добра» і «здавальняюча».

Вывучаецца пытанне аб аліфоўцы дэталей пасля іх зборкі, каб не забруджваць павозку пры зборцы чорнымі плямамі.

І выніка ў наяўнасці: якасць павозкі палепшылася. Днямі мы робім паўторную праверку.

Але на гэтым мы не спыніліся. Мы пачалі расшукваць рэкламацыі спажыўцоў. Аб тым, што да заўваг спажыўца на камбінаце адносіліся зусім няўважліва, гаворыць той факт, што нам прышлося шукаць рэкламацыі ў апараце заводакіраўніцтва 4 дні. З вялікай труднасцю ў грудзе рознай перапіскі знайшлі дзве рэкламацыі, сабралі ўсе рэкламацыі ў аддзеле забеспячэння.

Аказваецца аб наяўнасці рэкламацый

ніхто з рабочых не ведаў, а ў іх вельмі каштоўныя заўвагі аб якасці выпускаемай намі прадукцыі. Пачалі друкаваць мы гэтыя рэкламацыі ў газеце. І трэба сказаць, што цікавасць да газеты вырасла ў некалькі раз.

— Як чытаюць нашу газету? Аб гэтым сведчыць тое, што кожны дзень у нас бываюць спрэчкі з-за недастатковага на камбінаце тыражу газеты: выпускаем 1.000 экз., а рабочых 1.600.

Вось мы і думалі, што раз рабочыя так цікавяцца нашай газетай, значыць яна добрая, здавальняе чытача. А як азнаёміўся з работай фабрычна-заводскіх газет Масквы і Ленінграда, у прыватнасці з газетай «**Техника**» (завод «Красный треугольник»), я ўпэўніўся, што тэматыка нашай газеты бедная. Рад пытанняў, якія цікавяць рабочых, а асабліва пытанні культуры, мы мала ўзнімаем.

І зараз мы ўзяліся за расшырэнне тэматыкі газеты. Дабіваемся таго, каб рабочы ў нашай газеце знайшоў матэрыялы па ўсіх пытаннях, якія цікавяць яго, каб газету чытала ўся сям'я рабочага. Калі раней у нумары ў нас было 2-3 тэмы, то зараз даходзіць да 10 тэм.

У парадку пераняцення лепшага вопыту заводскіх газет Масквы і Ленінграда мы ўвялі ў шматтыражцы аддзел «Заводскі дзень». Вось змест гэтага аддзела ў адным з нумароў газеты.

«Велапрабег «Гомель—Чэрнігаў—Гомель» (веласіпедысты камбіната).

«Пісацелі грузінскай рэспублікі ў нас на камбінаце».

«67 палётаў на планеры» (планерыст камбіната Хромаў).

«Дзень у дзіцячым ачагу».

«Экскурсія Ленінград—Мядзвежая гара — Белморстрой».

«Першы футбольны матч» і т. д.

Перабудаваў я пасля экскурсіі і вучобу рабкораў і членаў рэдкалегій. Практыка паказала, што агульнакамбінацкі семінар рабкораў нежыццёвы. Ён дрэнна наведваецца, бо не ва ўсіх рабкораў аднолькавыя патрабаванні ў вучобе. Па рашэнню парткома мы арганізавалі семінары ў буйнейшых цэхах: у лесацэху і абознай вытворчасці. Нарады рэдактароў насценных газет праводзім па цэхах. На нарадах робім вусныя агляды асобных газет, заслухоўваем справаздачы рэдактароў. У лесацэху зараз рыхтуем выстаўку насценных газет.

Наладўна на цэхавых партыйных сходах я рабіў справаздачу аб рабоце шматтыражкі. Па вопыту маскоўскіх прадпрыемстваў кожны цэх вылучыў соцнамесніка рэдактара шматтыражкі. Гэтым соцнамеснікам я даручаю расследванне асобных заметак, прыцягваю іх на нарады рэдактароў нізавых газет. Намеціў план навучання соцнамеснікаў тэхніцы газетнай работы, вёрсткі і т. д. Цяпер ставім перад сабой задачу арганізаваць на камбінаце габінет рабкора.

Каб ліквідаваць хаос, які існаваў у рэдакцыі з учотам паступлення заметак і скарыстання іх у газеце, мы ўстанавілі такі парадак. Пісьмо рабочага здаецца ў архіў не пасля апублікавання ў шматтыражцы, ці адсылкі копіі на расследванне, як гэта звычайна практыкуюць усе газеты, а толькі тады, калі прыняты канкрэтныя меры па апублікаванай ці неапублікаванай заметцы. Арыгінал пісьма кладзецца ў архіў разам з друкаваным тэкстам (выразка з газеты) і з выразкай аб рэагаванні.

На неапублікаваных заметках робім паметкі аб прынятых мерах. Такі метад папярэджвае становішча, калі неапублікаваныя заметкі губляюцца, або змешваюцца з апублікаванымі.

Крытычныя заметкі

# Бухгалтар у ролі рэдактара

— Папа, а папа! Зноў перадавалі, што ў вас на заводзе прарыў. Проста чырванець за вас прыходзіцца.

— Няпраўда, сынок. Наш завод працуе выдатна, план выконваем. Гэта наша гомельская радыё-газета памылілася. Не вер, сынок, не вер «Апошнім паведамленням».

Мы не чулі гэтай гутаркі бацькі з сынам. Але практыка работы гомельскай радыё-газеты дае поўныя падставы меркаваць, што такія гутаркі могуць быць вельмі часта.

Роўна ў 6 гадзін вечара, апрача дзён адпачынку, з «магутных» і немагутных радыё-рупараў Гомеля чуецца знаёмы гамяльчанам старчаскі голас.

«Увага! Гаворыць гомельскі аддзел радыёвяшчання са студыі цэнтральнага трансляцыйнага вузла. Адначасова працуюць вузлы Навабеліцкага і Сталінскага раёнаў. Перадаем чарговы выпуск «Апошніх паведамленняў».

«Апошнія паведамленні»—гэта назва зусім не падыходзіць да гомельскай радыё-газеты. Амаль увесь матэрыял, які перадаецца па радыё, яшчэ напярэдадні змешчан у мясцовым друку. Уся радыё-газета пішацца двума штатнымі карэспандэнтамі рэдакцыі: **«К»** і **«С»**. Гэта **Капусціна** і **Сімановіч**. Рабкораў у рэдакцыі амаль няма.

Які-ж змест гэтых матэрыялаў?

Мы праверылі выпускі «Апошніх паведамленняў» за красавік—май. Пераважная большасць матэрыялаў — гэта інфармацыя аб усялякага роду непаладках і агіднасцях па асобных прадпрыемствах. Вельмі рэдка сустрэнеш інфармацыю станоўчага зместу.

Вось нумар 113 «Апошніх паведамленняў» ад 22 мая. Чытаем:

**«Гомельскія харчовыя прадпрыемствы ўключыліся ва ўсесаюзны конкурс на лепшае харчаванне. Па камбінату «Спартак» выпрацаван рад мерапрыемстваў па ўключэнню ў конкурс: азеляніць тэрыторыю камбіната, замасціць двор клінкерам, а акраіны двара булыжнікам, абсталёўваецца фізкультурная пляцоўка».**

Прычым тут конкурс на лепшае харчаванне да ўсіх гэтых мерапрыемстваў па прывядзенню ў парадак заводскага двара? Радыё-слухачы былі ў поўным недаўменні ад гэтай інфармацыі.

Матэрыял радыё-газеты абсалютна бязграматны. Літаратурнай апрацоўкай яго ведае тэхсакратар рэдакцыі, яна-ж і машыністка і дзелавод.

Прывядзем адзін з шматлікіх прыкладаў бязглуздзіцы ў перадаваемых паведамленнях:

**«...У гэтай пастаноўцы калектыву тэатра ўдалося паказаць, як творчая вынаходніцкая думка заглушваецца уплоць да папыткі знішчыць гэтую думку, якая выяўлена з боку прадстаўніка кіруючага класа».**

**(№ «Апошніх паведамленняў» ад 16 мая).**

Гора радыё-слухачам Гомеля ад такіх інфармацый. Гора і таму тэатру, аб якім так «вобразна» адзываецца гомельская радыё-газета.

15 мінут штодзенна ідуць у эфір і прымаюцца 5.000 радыё-кропкамі гомельскія «Апошнія паведамленні». Хто-ж адказвае за такую сур'ёзную палітычную справу як радыё-газета?

Тав. **Рэйзін**—дырэктар радыё-вузла, ён-жа рэдактар радыё-газеты, ён-жа бухгалтар. Ніколі ён на газетнай рабоце не быў. У апошні час працаваў галоўным бухгалтарам у каапераціі. Але надакучыла Рэйзіну сядзець за бухгалтарскім сталом і яго перакінулі ў радыё-газету. Якой павінна быць радыё-газета, ён не ведае. «Установкі не атрымаў—заяўляе ён.—Але адчуваю, што не тое, патрэбна неяк перабудавацца».

Працуюць у рэдакцыі два карэспандэнты-«масавікі», як іх называюць. Гэта знаёмыя ўжо нам Капусціна і Сіма-

новіч. Ніякіх заданняў ад рэдактара яны не атрымліваюць. Ніякіх планаў, ніякіх установак у іх няма. Што ўздумаюць, тое і пішуць. Матэрыял збіраецца за два дні да перадачы. Зразумела, што «Апошнія паведамленні» выходзяць, мякка кажучы, крыху ўстарэлымі.

Ёсць яшчэ машыністка, яна-ж і літработнік, і тэхсакратар. Па сутнасці машыністка вырашае лёс газеты: што яна надрукуе, тое і перадаецца па радыё.

Вось кадры, якія робяць гомельскую радыё-газету, якія кожны дзень на 15 мінут запаўняюць эфір сваімі «творамі».

Гомельскі гарком КП(б)Б да гэтага часу яшчэ не зацікавіўся работай сваёй радыё-газеты. А зацікавіцца, умацаваць рэдакцыю і перабудаваць яе работу трэба як можна хутчэй. **Я. ЭСТЭРКІН.**

# „Экстраны выпуск“

1 чэрвеня вышаў чарговы 21 нумар **журавіцкай** раённай газеты **«Сталінец»**.

У гэты-ж дзень вышаў яшчэ адзін нумар гэтай газеты, праўда, меншага фармату. Таксама як і ў папярэднім нумары ў загалоўку значыцца **«СТАЛІНЕЦ». Орган Журавіцкага РК і РВК. Субота 1 чэрвеня 1935 г.** Розніца толькі ў № (газета вялікага фармату вышла за 21 нумарам, маленькага фармату за 5 нумарам) і ў змесце. Другі выпуск журавіцкай газеты быў увесь заняты пастановай раённага партсхода ад 28 мая «Аб выніках веснавой сяўбы і далейшых задачах па правядзенню праполкі, уздыму папараў і падрыхтоўкі да ўборкі». Пад пастановай падвёрстаны некалькі пунктаў з дагавору па соцспаборніцтву з Кармянскім раёнам.

Праз дзень—2 чэрвеня — вышаў 22 нумар «Сталінца». На апошняй старонцы гэтага нумара значыцца: **«Экстраны выпуск, прысвечаны райзлёту знатных людзей раёна».**

Па праўдзе кажучы, нас некалькі здзівіла такая аператыўнасць журавіцкай рэдакцыі: у **два дні** яна здолела выпусціць **тры нумары** газеты.

Прагладаем экстраны выпуск і наша здзіўленне ўзрастае. «Ба, знаёмыя ўсё твары». Дзе-ж гэта мы толькі што бачылі ўсе матэрыялы, змешчаныя ў «экстраным выпуску?». Бяром хутчэй абодва нумары за 1 чэрвеня. У першым «выпуску» газеты за 1 чэрвеня змешчана прапанова кіраўцоў аб пасылцы пісьма т. **Сталіну** ў дзень усебеларускага народнага свята, і ў «экстраным выпуску» за 2 чэрвеня змешчана гэта прапанова. 1 чэрвеня змешчан артыкул «Ворыву папараў—бальшэвіцкія тэмпы і якасць» і 2 чэрвеня змешчан гэты-ж артыкул. 1 чэрвеня змешчана пастанова райпартсхода за 28 мая і ў «экстраным выпуску» за 2 чэрвеня змешчана гэта-ж пастанова. Толькі адзін матэрыял новы ў «экстраным выпуску» — рэдакцыйны перадавы артыкул.

Узнікае некалькі пытанняў. Навошта патрэбна было рэдакцыі журавіцкай газеты перадрукоўваць два разы адзін і той-жа матэрыял? Навошта было ашукваць чытача «экстраным выпускам, прысвечаным райзлёту знатных людзей», калі апрача прывітальнай «шапкі» ды некалькіх слоў у перадавым артыкуле, аб злёце ў нумары нічога няма, калі ў нумары не паказан ні адзін знатны чалавек раёна, ні адзін калгаснік-ударнік.

І нарэшце, хто дазволіў рэдактару журавіцкай газеты т. **Ф. Курпяку** так злачынна выдаткоўваць каштоўнейшую для нас газетную паперу?

**А. ЦЫПІНА.**

# „П'ЯНАЕ МАЛАКО"




Слава Калумба, адкрыўшага Амерыку, не давала спакойна спаць рэдактару хойніцкай раённай газеты т. **Іофіку.** Не ведаем, ці доўга рэдактар думаў над тым, каб зрабіць новае адкрыццё і ім зацямніць славу Калумба, але добра вядома, што яго намаганні ўвянчаліся некаторым поспехам.

Праўда, другой Амерыкі т. Іофін не адкрыў, славы Калумба не пахіснуў, аднак аб «адкрыцці» газеты «Ленінскі сцяг» мы лічым не лішнім пагаварыць.

Дагэтуль, наколькі нам вядома, нідзе і ніколі не было даказана, што малако бывае п'яным. Упершыню мы аб гэтым даведаліся з **«Ленінскага сцяга».** Каб не пакінуць месца сумненням, падамо вытрымку з самой газеты:

**«Калі даярка надоіць 20 літраў малака, дык Кот А. (загадчык фермы — В. Я.) піша ў ведамасць 15, астатняе малако ідзе на п'янку, так як амаль кожны дзень бывае п'яным». («Л.С.» № 51 ад 23 мая. «Злодзей на ферме».**

Што-ж датычыць бязлітаснай расправы з арфаграфіяй і сінтаксам, туманнасцей стылю, то тут, нам здаецца, «Ленінскі сцяг» нічога новага не ўносіць. Праўда, зрабіць **125** арфаграфічных і сінтаксічных памылак толькі на адной першай паласе — гэта з'яўляецца рэкордам у рэспубліканскім маштабе.

Арыгінальнага праўда, у гэтым вельмі мала. «Ленінскі сцяг» упарта прадаўжае найгоршыя «традыцыі» асобных раённых газет, якія ігнаруюць і правапіс і сінтакс, і элементарную стылістычную апрацоўку матэрыялаў. Церпяць ад гэтага ў большасці чытачы газеты.

Да рэчы, аб чытачах. Нас цікавіць пытанне, што думаюць аб сваёй газеце «чытачы» з Хойніцкага райкома партыі?

**В. ЯНЧУКОВІЧ.**

# ЯКІ-Ж НУМАР ГАЗЕТЫ ВЫШАЎ?

Не ўмеюць работнікі рэдакцыі і друкарні **камарынскай** раённай газеты лічыць далей 38. Пачынаюць лічыць, дойдуць да 38 і назад варочаюцца.

**15** мая вышаў **38** нумар камарынскага **«Калгаснага сцяга».** Чарговы нумар газеты за 18 мая быў пазначан ужо нумар **32.** Да **30** мая рэдакцыя дацягнула неяк нумарацыю газеты да **36**, а далей ісці не адважылася. **5** чэрвеня газета вышла зноў за **№ 36.**

Пры такім становішчы можна меркаваць, што «Калгасны сцяг» за 25 чэрвеня выйдзе зноў за № 32, што да канца года камарынская газета вышэй 38 нумара не падымецца.

* * *

# Ініцыятыва практыка вопыт

## АГІТБРЫГАДА ПА РАСПАЎСЮДЖАННЮ ПАЗЫКІ.

На ініцыятыве рэдакцыі газеты **«Сталінец»** у адстаючыя па распаўсюджанню пазыкі калгасы Ветрынскага раёна была накіравана агітбрыгада. Некалькі лепшых вясковых актывістаў з удзелам работнікаў раённай газеты праводзілі гутаркі ў брыгадах, а ўвечары сходы калгаснікаў, пасля якіх наладжваліся мастацкія выступленні, канцэрты. За некалькі дзён работы агітбрыгады калгаснікі падпісаліся на пазыку на 9 тыс. з лішнім рублёў.

Выключную ролю адыграла агітбрыгада ў распаўсюджанні пазыкі сярод працоўных аднаасобнікаў. 30 аднаасобнікаў з самай адстаючай у раёне вёскі Жабіны, пасля работы агітбрыгады, падпісаліся на пазыку на 1.300 руб.

## ТЫСЯЧНЫ НУМАР «РЭЧЫЦКАЙ ПРАЎДЫ»

У канцы чэрвеня выходзіць 1000-ны нумар рэчыцкай раённай газеты. Партком завода «Інтэрнацыянал» у сувязі з юбілеем «Рэчыцкай праўды» распачаў праверку рэагавання на пісьмы працоўных. 12 чэрвеня склікаецца пашыраная нарада рэдкалегій нізавых газет завода. На нарадзе будуць заслуханы справаздачы рэдактароў насценгазет «Шуруп» і «Сігнал». 14 чэрвеня агульны сход рабочых завода заслухае справаздачу рэдакцыі «Рэчыцкай праўды».

12 чэрвеня калгаснікі калгаса «Чырвоны шлях» выступілі на старонках раённай газеты з пісьмом, у якім расказваюць аб рабоце выязной рэдакцыі «Рэчыцкай праўды» ў сельсовеце і аб ролі раённай газеты ў арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгаса.

## ЗБОРНІК, ПРЫСВЕЧАНЫ ВОПЫТУ ЛІТАРАТУРНАГА ПАХОДУ

Аршанская раённая газета **«Ленінскі прызыў»** звярнулася з пісьмом да ўсіх удзельнікаў паходу за аўладанне калгаснікамі мінімумам лепшых твораў савецкіх пісьменнікаў.



Рэдакцыя просіць падагуліць вопыт літаратурнага паходу ў сваім калгасе, або сельсовеце і ўвесь матэрыял прыслаць у рэдакцыю раённай газеты для надрукавання яго ў спецыяльным зборніку.

«У гэтай кнізе, — піша рэдакцыя раённай газеты, — мы пакажам увесь шлях, усю гісторыю паходу, пачынаючы з адозвы райкома і палітаддзела МТС аб паходзе. Мы раскажам, як сустрэлі калгаснікі гэту адозву, як ішоў збор літаратуры, як праходзіла сама чытка. Перадайце вопыт сваёй работы, метад, формы работы, раскажыце пра зборы на чытку, пра абсталяванне памяшкання і т. д. Раскажыце, як кніга перавыхоўвала людзей, думкі чытачоў аб паасобных героях і творах Пакажыце творчасць гурткоўцаў, а мы змесцім нарысы аб людзях, аб чытачах, аб калгаснай культуры. Пакажыце, як ад калектыўнай чыткі ў гуртку людзі пачалі чытаць мастацкую літаратуру ў сябе дома, сталі купляць кніжкі і т. д».

## ЗА СВОЕЧАСОВУЮ ПАДРЫХТОЎКУ ІЛЬНОЦЕРАБІЛАК І ВАДЗІЦЕЛЯЎ

Талачынская раённая газета **«Калгаснік Талачыншчыны»** пачала праверку якасці рамонту ўборачных машын. 23 мая першая старонка раённай газеты вышла пад лозунгам «Прывядзем у баявую гатоўнасць кожную ільноцерабілку, забяспечым іх вопытнымі вадзіцелямі». Матэрыялы гэтай старонкі мабілізуюць на хутчэйшае разгортванне рамонту ільноцерабілак, на падрыхтоўку вопытных машыністаў-вадзіцеляў. Газета расказвае аб вопыце падрыхтоўкі да ўборкі ільну ў калгасе «XI з'езд советаў», спыняецца на рабоце лепшага звяна Ганны Валковіч: «Палі ільну зазелянелі. Добрыя ўсходы. Звяно Ганны падрыхтавала 6 евень для сушкі ільну, ачысціла і абгарадзіла ўчастак ракі ў 40 метраў для мочкі ільну і пянькі. Для сушкі ільну падрыхтаваны альховыя дровы». Для праполкі ільну ў калгасе створана 6 звенняў палольшчыц.

